**2010 "Election" in Belarus**

In December 2010, the International Steering Committee of the Council for a Community of Democracies joined with numerous governments and NGOs in condemning the recent election in Belarus. Among the concerns noted:

•Dozens of people protesting the official results of the vote and journalists were severely beaten; more than six hundred were detained, including seven out of ten presidential candidates… Closed trials that have already taken place are a parody of justice, with false witnesses from among the police, fabricated evidence, and no access to lawyers and the public...

•Alexander Lukashenko, who will rule his country for the fourth consecutive term in an absence of free and fair elections, threatens opposition members with harsh criminal prosecution and many years of prison terms… the government of Belarus has once again turned elections into a meaningless mockery of a democratic process and left people of Belarus no other choice but to protest in the streets… We support the OSCE conclusions not recognizing the elections as free and fair…

•We urge that no democratic government… treat Alexander Lukashenko as a legitimate leader. Only by embracing democratic principles will Belarus be able to join fully the region's progress towards development and economic growth… We stand in solidarity with democracy activists in Belarus and join them in their demand of freedom for their country.

**Russia and Putin**

In his excellent book *Fragile Empire* (2013), Ben Judah conducted interviews across Russia over several years and clearly cares deeply for the well-being of the Russian people. Readers learn how, since 2000, Putin and his slogans 'managed democracy', 'dictatorship of law', and 'vertical of power', became mostly corruption and bad governance.

A 'Videocracy' resulted, for example, from Putin's first term as president. Television news had undone earlier Russian leaders from Brezhnev to Yeltsin, so Putin seized the two largest networks and exiled their owners. "… TV editors (got) calls from 'up top' setting the agenda; the secret services (called) reporters to tell them (they'd) gone too far, and journalists were frequently murdered." Russians relying on such televised news understandably tend to remain loyal to Putin.

"The Great Turn" occurred in 2003 when Putin lurched towards totalitarianism. He had Mikhail Khodorkovsky, Russia`s richest oligarch, arrested and thrown into a Siberian

prison after the other accused him of being "corrupt and incapable". This was the 'dictatorship of law'. Judah concludes that Putin was seen by many Russians in 2013 as "a thief who has stolen the state" by giving Russia "the formal institutions of a 3 democracy, but gutting them of any meaning". Like Yeltsin, concludes Judah, Putin cannot leave power for fear of arrest.

**Diaspora roles in Canada**

I've been asked to say something about the place of diaspora communities in Canada and what makes them successful contributors to their own, as well as to broader Canadian cultural and political spaces.

The short answer is that Canada does not seek to force any newcomer into a melting pot akin to the legendary one operating in the United States. In both our countries, tens of millions of immigrants/refugees have arrived in successive waves since the 1880s and earlier. In Canada, we believe in a multiculturalism, which assumes that all people are of equal worth and should be given the right to choose their own life-styles within the law. One of these laws bans inciting hatred towards any identifiable community, culture or religion.

With some adjustment bumps, our model really does work. Many Canadians thus identify with the open arms Angela Merkel is offering to Middle East refugees arriving in Germany. My own church here in Ottawa is sponsoring a family from Syria.

You represent many waves of immigration and, as with other groups, strive to make connections that will strengthen and empower your community as a whole.

Permit me to suggest that in as many communities as feasible across North America you connect with your local representative at the national, provincial/state and local level. Sometimes, it's more productive to do so with their staffers. One goal is to develop trust and understanding, so that if help is needed on an issue your community knows whom to contact quickly in confidence that positive action will result. Elected persons and their staffs are as human as all of us. If a stranger calls the office asking for something, you are less likely to respond quickly, but if it's someone you know is truthful you are likely to act quickly in the way they request, especially if Belarus, for example, is not well known.

Continued success to you in future.

 *ISSN 2291-4757*

**Прывітальнае пісьмо Kathleen Wynne, Прэм'ер-міністра правінцыі Антарыё**






***32nd BIENNIAL CONVENTION OF BELARUSIANS OF NORTH AMERICA***

***BelarusianCanadianAlliance***

*September 3 - 5, 2016*

On behalf of the Government of Ontario, I am delighted to extend warm greetings to everyone attending the 32-nd Biennial Convention of Belarusians of North America.

I wish to commend everyone involved with the Belarusian Canadian Alliance for their role in building our community. I also wish to thank all those who have devoted their time and energy to bringing this convention to Ottawa, Ontario. By providing this wonderful opportunity for the Belarusian community to connect with the culture and people of Belarus, you are making our province a stronger, more inclusive place.

To those visiting Ottawa -welcome! Our nation's capital is a city rich in history, culture and natural beauty, and is ready to offer you the very best of its hospitality.

Please accept my sincere best wishes for a successful and enjoyable convention.

***Kathleen Wynne***

***Premier***

КУЛЬТУРА НАЦЫЯ

*КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ, №15, верасень 2016* *ISSN 2291-4757*

## Прывітальнае пісьмо Melanie Joli, Міністра канадыйскай спадчыны

Minister
of Canadian Heritage



Ministre
du Patrimoine canadien

Ottawa, Canada K1A 0M5



Welcome to Ottawa for the 32nd Biennial Convention of Belarusians in North America!

Canada is a country built by men and women of many cultures from all over the world. This diversity has made us stronger. The Government of Canada is proud to salute the work of organizations that are committed to celebrating the many cultures that call Canada home.

For more than six decades, the Biennial Convention of Belarusians in North American has provided an opportunity to celebrate Belarusian heritage, to showcase Belarusian culture and media, and to highlight the successes of citizens of Belarusian descent. This year, on the 25th anniversary of the independence of Belarus, the convention will continue to foster a positive relationship between North America's Belarusian diaspora and its homeland.

As Minister of Canadian Heritage, I commend the Belarusian Canadian Alliance, the Belarusian American Association and everyone who helped make this convention possible. I wish everyone many inspiring discoveries and enriching exchanges.

The Honourable Mélanie Joly

Canada




32-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі, Аттава, 4 верасьня 2016 г.



Удзельнікі і госьці 32-й сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі, Аттава, 4 верасьня 2016 года *(злева направа)*: Юрась і Ўлада Шамецькі, Дэвід Кілгор, Станіслаў Заборовскі, Мікола Беланюк, Пётра Мурзёнак, Івонка Сурвілла, Наталія Баркар, Андрыс Кестэрыс



На паэтычнай вечарыне ў садзе Наталіі і Пятра Мурзёнкаў *(Аттава, 5.09.2016)*

Больш здымкаў можна знайсьці на сайце:

**https://goo.gl/photos/LEfz9avB xhGLoYrE9**

*Лекцыі*

**Алена Макоўская: Нацыянальная ідэнтычнасць беларусаў - узаемаўплывы працэсаў у дыяспары і Беларусі**




**Алена Макоўская**, кіраўнік Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына”, а брана на 5-м з’ездзе беларусаў свету ў 2009 годзе. Скончыла Лінгвістычны ўніверсітэт (1992) і Акадэмію кіравання пры Савеце Міністраў РБ (1997). З 2008 года разам з Нінай Шыдлоўскай, старшынёй Рады “Бацькаўшчыны”, з’яўляецца каардынатарам грамадскай культурніцкай кампаніі “Будзьма беларусамі!”. Кампанія “Будзьма!” працуе на паглыбленне нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў, што з’яўляецца, на думку арганізатараў кампаніі, фундаментам развіцця грамадзянскай супольнасці і пабудовы дэмакратычнай краіны.

Як вядома, у апошнія стагоддзі наша краіна прымусова знаходзілася спачатку ў складзе Расійскай імперыі, потым — Савецкага Саюза. І ў выніку прайшла праз вялікія культурныя страты, шэраг спусташальных войнаў і зазнала знішчэнне самай актыўнай і дзеяздольнай часткі грамадства. За гэты час былі зробленыя спробы змяніць ідэнтычнасць беларусаў — русіфікацыя і саветызацыя. У выніку ў грамадстве адбыўся разрыў традыцый, пераемнасці.

Даследаванні сацыёлагаў, нацыянальныя апытанні паказваюць, што 30% беларусаў па-ранейшаму, нягледзячы на тое, што ўжо 25 гадоў жывуць у незалежнай дзяржаве, лічаць сябе савецкімі людзьмі. З гэтага вынікае слабая грамадзянская пазіцыя, перакладанне рашэння сваіх праблемаў на дзяржаву, якая ўспрымаецца асноўным размеркавальнікам выгадаў і пакаранняў (патэрналізм), а правы і свабоды не ўсведамляюцца як уласная каштоўнасць. Гістарычная памяць пра гарадское самакіраванне, пра развітую краіну з універсітэтамі, школамі і друкарнямі, з прагрэсіўнай канстытуцыяй і заканадаўствам, дзе жылі разам прадстаўнікі розных нацыянальнасцяў і рэлігій, адсутнічае і не ўспрымаецца як уласная каштоўнасць. Такі тып ідэнтычнасці можна назваць “афіцыйным”, і ён сёння найбольш шырока прадстаўлены ў нашай краіне і канфліктуе з “этнакультурнай” ідэнтычнасцю, як яе вызначаюць некаторыя навукоўцы, якая апелюе да пазітыўных дасягненняў і культурных здабыткаў нашага народа за шматвяковую гісторыю. Менавіта гэты, апошні, тып ідэнтычнасці ёсць глебай для дэмакратычных пераўтварэнняў, асновай незалежнасці Беларусі і цывілізацыйна звязвае Беларусь з Еўропай.

*КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ, №15, верасень 2016* *ISSN 2291-4757*

У 2009 годзе Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына” ў межах кампаніі “Будзьма беларусамі!” правяло супольна з лабараторыяй "Новак" сацыялагічнае даследаванне нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў, пасля некаторыя замеры былі паўтораныя ў 2012 і пазней, у 2014 г. Ніжэй прыводзяцца некаторыя дадзеныя з гэтага даследавання і высновы, зробленыя сацыёлагамі і аналітыкамі:

**1. У беларусаў дамінуе тэрытарыяльная і грамадзянская ідэнтычнасць:**
На пытанне “Што больш за ўсё звязвае вас з людзьмі вашай нацыянальнасці?” рэспандэнты адказалі:
- 72,5% — тэрыторыя і агульнае месца пражывання;
- 68,8% — дзяржава.

***Такім чынам,*** нацыянальная ідэнтычнасць у асноўным фарміруецца праз асэнсаванне сувязі з тэрыторыяй і дзяржавай, а не з культурай.

2. **Савецкая ідэнтычнасць vs еўрапейская:**
- 29,2% беларусаў адчуваюць сябе савецкімі людзьмі;
- 25,9% беларусаў адчуваюць сябе еўрапейцамі.

3. **Уяўленне пра сябе:**
51,8% — беларусы — асобны народ;
41,9% — беларусы — частка трыадзінай славянскай нацыі.
**Галоўнае дзяржаўнае свята:** 3 ліпеня — 56,9%, 25 сакавіка — 1,2%.
**Нацыянальны сімвал:** Дзяржаўны сцяг і герб — 67,5%, бел-чырвона-белы сцяг і Пагоня — 9,7%, абодва ў роўнай ступені — 14,3%.
**Вытокі беларускай дзяржаўнасці:**
Полацкае і Тураўскае княствы — 25,1%,
ВКЛ — 44,8%, БНР — 9,9 %, БССР — 18,2%, РБ — 15,6%.
Не ведаю, што адказаць, — 14,6%
З чаго вынікае, што пераважная бальшыня бачыць вытокі беларускай дзяржаўнасці ў Полацкім княстве і ВКЛ, але нацыянальным сімвалам успрымаюцца сённяшнія дзяржаўныя герб і сцяг.

4. **Беларускі нацыянальны характар:**

Паводле апытання 2012 года, нацыянальны характар апісваецца станоўча: *гасціннасць, працавітасць, дабрыня, цярпімасць, законапаслухмянасць* (топ-5). Аднак толькі 7,8% рэспандэнтаў лічыць, што яны ў максімальнай ступені падобныя па сваіх якасцях да тыповага беларуса, 37,0% — падобныя да тыповага беларуса ў

большай ступені; 39,6% — падобныя сярэдне, 12,7% — падобныя мала ці зусім не падобныя.

На адкрытае пытанне, што менавіта адрознівае яго ад тыповага беларуса, рэспандэнты адказалі наступным чынам: любоў да свабоды, актыўнасць, прадпрымальнасць, упэўненасць у сабе, смеласць. З гэтага можна зрабіць выснову, што МЫ — памяркоўная нацыя, але Я — нетыповы беларус!

**5. Веданне мовы:**

Па ацэнцы рэспандэнтаў, ад 20 да 30% з іх добра валодае беларускай мовай, але рэальна выкарыстоўваюць яе ў штодзённай камунікацыі ад 4 да 7%.

| | **2009 г.** | **2012 г.** |
|---|---|---|
| Свабодна валодаю: размаўляю, чытаю, пішу, думаю | 34,2 | 23,4 |
| Чытаю, разумею размову, але кепска пішу і практычна не размаўляю | 43,2 | 48,1 |
| У асноўным разумею размоўную мову, але не чытаю, не размаўляю і не пішу | 19,6 | 25,7 |
| Не разумею размоўнай мовы, не чытаю, не размаўляю і не пішу | 1,7 | 2,5 |

6. **Стаўленне да тых, хто гаворыць па-беларуску**

| **«Сапраўдныя беларусы, патрыёты»** | **49,3** | **46,7** |
|---|---|---|
| «Вёска» | 5,3 | 6,1 |
| «Апазіцыя» | 4,2 | 8,9 |
| «Дзіўныя людзі» | 2,7 | 4,4 |
| «Нацыяналісты» | 3,3 | 5,2 |
| «Працуюць на публіку, хочуць здзівіць» | 6,3 | 7,5 |
| «Эліта нацыі» | 5,5 | 10,4 |
| Не звяртаю на гэта ўвагі | 24,3 | 28,9 |

Вышэй прыведзеная толькі невялікая частка апытанняў, якая найбольш яскрава ілюструе сітуацыю з ідэнтычнасцю. Зразумела, што сітуацыя не стаіць на месцы, таму “Бацькаўшчына” і надалей будзе ініцыяваць ці ладзіць падобныя даследаванні.

Адносна ж папярэдніх апытанняў і фокус-груп можна зрабіць наступныя высновы:

- Слабая нацыянальная ідэнтычнасць — прычына хуткай асіміляцыі беларусаў у замежжы і неінтэграванасці ў самой краіне.
- Відавочны разрыў традыцыі, калі бальшыня беларусаў паводзіць сябе не так, як тут сябе паводзілі заўжды, а так, як паводзяць сябе ўсе навокал.
- Перадача традыцыі калі і адбываецца, то не ад бацькоў дзецям, а наадварот, моладзь, якая нарадзілася ўжо ў незалежнай Беларусі, адчувае патрэбу ў самаідэнтыфікацыі.
- Адбылася змена стаўлення да мовы: у савецкія часы беларуская мова лічылася мовай вёскі, ад 1994 г. мова стала палітызавацца і найчасцей асацыявалася з палітычнай апазіцыяй. Цяпер ідзе змена тэндэнцыі: беларусы яшчэ не гатовыя размаўляць, але гатовыя атрымліваць інфармацыю на мове (56,7%). Беларуская мова “пераехала” ў горад.
- Дагэтуль існуе стэрэатып, што па-беларуску няма распрацаванай прафесійнай лексікі, таму справаводства, армія, бізнес не могуць карыстацца мовай.

Самая галоўная выснова сацыёлагаў — неінтэграванасць эмацыйнага пачатку людзей у структуру нацыянальнай ідэнтычнасці (пазіцыя староннягa назіральніка). Людзі ўсведамляюць, што Беларусь — незалежная краіна, а значыць, мусіць мець сваю культуру і мову, але няма ўцягнутасці ў гэты працэс, супольных перажыванняў. І прычыны зразумелыя: гэта і дзяржаўная ідэалогія, і сённяшняя беларуская адукацыя, і адсутнасць шырока даступнай інфармацыі, і дзяржаўная манаполія на каналы камунікацыі, і цэнзура, і пасіўнасць людзей, і як вынік — слабае веданне ўласнай гісторыі і культуры.

Сёння мы бачым, як паступова мяняецца наша краіна, усе больш заўважным робіцца цікавасць маладога пакалення да роднай мовы і культуры, мяняецца стаўленне да іх. Безумоўна, пачатак гэтым працэсам паклала здабыццё Беларуссю незалежнасці. Таксама вельмі важную ролю адыграла і адыгрывае дзейнасць беларускіх грамадскіх аб’яднанняў, творчых суполак, культурных і палітычных дзеячаў і, канечне ж, дыяспары.

Хваля беларускай эміграцыі, што пакінула Беларусь у час і адразу пасля Другой сусветнай вайны і асела на Захадзе, — доказ ствральнага духу нацыянальна

ідэнтыфікаванай эміграцыі. Менавіта з гэтай хвалі эміграцыі можна пачаць адлічваць жыццё і дзейнасць найбольш трывалых беларускіх асяродкаў, большасць з якіх працуе да сёння. Менавіта тады пачалі паўставаць беларускія культурніцкія цэнтры і цэрквы ў замежжы, друкавацца газеты, стварацца матэрыяльная і духоўная спадчына беларускага замежжа. Такім чынам, беларуская дыяспара на тыя часы моцнай русіфікацыі ў БССР выступіла захавальнікам беларускіх традыцый, мовы і культуры. І нават больш: зрабіла ўклад у яе развіццё. Папярэднія, эканамічныя, хвалі эміграцыі не далі такога эфекту праз слабы нацыянальны складнік.

Таксама роля заходняй беларускай дыяспары выявілася ў актыўнай палітычнай дзейнасці, а менавіта ў аднаўленні дзейнасці Рады БНР як падмурку існавання незалежнай і, што вельмі важна, дэмакратычнай Беларусі. Гэта дало пераемнасць палітычных традыцый; да гэтага апелявала ў Беларусі нацыянальная дэмакратычна настроеная эліта: культурныя, грамадскія дзеячы і палітыкі ў канцы 1980-х гадоў.

Важную ролю адыграла эміграцыя і ў развіцці нацыянальнай беларускай думкі, уключаючы істотны ўнёсак у філасофію беларускай дзяржаўнасці і ў сістэму міжнародных стасункаў. Да ўсяго, беларусы замежжа ў часы СССР былі рэпрэзентантамі інтарэсаў беларускага народа на Захадзе, бо нашая краіна тады не мела свайго права голасу, ад яе імя выступала дыяспара.

1990-я гады ў Беларусі ўвайшлі ў гісторыю як час нацыянальнага адраджэння. Пачалі аднаўляцца перарваныя кантакты з беларусамі далёкіх заходніх краінаў. Беларусь паступова пачала ўбіраць у сябе скарбы, захаваныя беларускім замежжам, адкрываць для сябе імёны і падзеі. Адначасна з гэтым пасля развалу СССР больш чым мільён нашых суайчыннікаў таксама зрабіліся беларусамі замежжа. Усе гэтыя працэсы патрабавалі ўвагі з боку грамадскасці і дзяржавы. Водгукам на патрэбу таго часу стала і заснаванне нашай арганізацыі — Згуртавання “Бацькаўшчына”.

Сябры Згуртавання “Бацькаўшчына”, як ніхто іншы, ёсць сведкамі той дапамогі, тых культурніцкіх і грамадскіх праектаў, у якіх удзельнічала беларуская дыяспара цяпер ужо не толькі з Захаду, але і з постсавецкай прасторы. Гэта і дапамога пасля Чарнобыльскай катастрофы, і аднаўленне вобраза Крыжа Ефрасінні Полацкай, і будаўніцтва музея ў Гайнаўцы, і рэстаўрацыя Полацкага манастыра і Мірскага замка, і вяртанне гістарычных і культурных каштоўнасцяў. А колькі кніг выйшла дзякуючы беларусам замежжа! Актыўнае супрацоўніцтва ў галіне культуры ідзе да гэтага часу.

Важную кансалідацыйную ролю ў стасунках паміж беларусамі ў краіне і замежжы адыгрываюць з’езды беларусаў свету, што ладзіць “Бацькаўшчына” кожныя 4 гады. З’езд — гэта яшчэ і буйная грамадская падзея, якая дазваляе ацаніць і прааналізаваць працэсы, што адбываюцца ў чатырохгадовы перыяд паміж імі ў Беларусі і беларускім замежжы ў сферы нацыянальнага жыцця, стасункаў паміж метраполіяй і дыяспарай. Аналіз выніковых дакументаў усіх з’ездаў “Бацькаўшчыны” дэманструе, што пытанні захавання беларускай культуры і мовы — асноўных складнікаў ідэнтычнасці — праходзіць чырвонай лініяй праз усе нашы форумы, як і пытанне незалежнасці нашай краіны, бо найлепшы абаронца незалежнасці — таксама ідэнтычнасць. І “Бацькаўшчына” актыўна працуе на яе паглыбленне.

Сёння дзейнасць Згуртавання ідзе ў 2 кірунках. Першы — гэта наладжванне і развіццё сувязяў з беларусамі замежжа, а гэта і заканатворчыя ініцыятывы нашай арганізацыі, і даследчая праца, і выданне кніг, прысвечаных эміграцыі, і правядзенне прэзентацый, розныя інфармацыйныя актыўнасці, выданне штомесячных бюлетэняў, сайт і іншыя крокі па захаванні і папулярызацыі культурніцкай спадчыны беларускага замежжа, адстойванні інтарэсаў беларускай дыяспары ў Беларусі. Другі ж кірунак — правядзенне грамадскай культурніцкай кампаніі “Будзьма беларусамі!” з мэтай паглыблення нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў.

Матывацыяй для “Бацькаўшчыны” ініцыяваць шырокую грамадскую кампанію ў 2008 годзе стаў аналіз працэсаў у беларускім замежжы, а менавіта высокія тэмпы асіміляцыі беларусаў: кожны наступны перапіс насельніцтва ў розных краінах свету сведчыў пра імклівае скарачэнне колькасці нашых суайчыннікаў. Было відавочна, што праблема знаходзіцца не па-за межамі краіны, а дома, у Беларусі, і заключаецца яна ў слабай нацыянальнай ідэнтычнасці людзей. Таму, пакідаючы Радзіму, яны лёгка перарываюць з ёй культурную сувязь. Яшчэ адной прычынай, што падштурхнула да ідэі кампаніі, была нізкая інфармаванасць беларусаў пра сучасную беларускую культуру і адначасна рост цікавасці да яе.

Гэта і натхніла сабраць каманду аднадумцаў і пачаць працаваць на тое, каб, зрабіўшы нашу культуру больш папулярнай у сённяшніх беларусаў, паглыбіць іх нацыянальную ідэнтычнасць. З 2008 года да сёння кампанія правяла больш за 4500 розных грамадскіх, культурных і асветніцкіх акцый. Яе мерапрыемствы наведала больш за 300 000 чалавек у 220 мястэчках і гарадах Беларусі. Вядомасць “Будзьма беларусамі!” — 18,6% на канец 2015 года.

Найбольш яркімі праектамі кампаніі, якія выклікалі шырокі грамадскі рэзананс у Беларусі, натхнілі на падобныя ідэі і іх рэалізацыю іншыя ініцыятывы, прычым не толькі грамадскія, але і бізнес, і спорт, і некаторыя дзяржаўныя структуры, ці мелі доўгатэрміновы асветніцкі эфект, сталі:

**Анімацыйны фільм "Будзьма беларусамі, альбо Гісторыя Беларусі за 5 хвілін":**
•больш за мільён праглядаў, тысячы спампаванняў (актуальны дагэтуль);
•фільм часам дэманструецца на ўроках гісторыі;
•паспрыяў з'яўленню шэрагу культурніцкіх праектаў;
•відэашэраг фільма выкарыстоўваецца для аздаблення розных нацыянальна-арыентаваных прадуктаў, як і музыка да яго;
•візуальная прадукцыя, створаная паводле фільма, да гэтага часу карыстаецца попытам.

**Міжнародны музычны праект "Будзьма. Тузін. Перазагрузка":**
- пастаянная ратацыя на Радыё "Сталіца" і 1-м канале радыё;
- асобныя песні ў эфірах Радыё "Бі-Эй", Радыё "Мір", "Юністар", Радыё "АНТ".

**Камунікацыйны праект "Краіна цмокаў":**
- больш за 300 публікацый, у тым ліку ў дзяржаўных СМІ;
- рэбрэндынг баскетбольнай каманды з "Мінск-2006" у "Цмокі-Мінск";
- устаноўка помніка цмоку ў Лепелі і штогадовае правядзенне фестывалю, які ўжо стаў міжнародным;
- выкарыстанне цмока для аздаблення брэндаў, а таксама ў розных культурніцкіх і турыстычных ініцыятывах.

**Штогадовы фестываль беларускай рэкламы і камунікацыі Ad.Nak!**
Статыстыка фестывалю:
- AD.NAK! 2010 год: 105 работ ад 59 удзельнікаў;
- AD.NAK! 2016 год: 285 заявак ад 135 удзельнікаў;
- 50 партнёраў фестывалю, сярод якіх: кампанія velcom, вытворца беларускага піва "Аліварыя", чыпсаў "Анега" і інш.;
- 28 інфармацыйных партнёраў —вядомых беларускіх незалежных выданняў.
- больш за 2000 публікацый цягам сямі фестываляў;
- кожны год у адукацыйнай праграме фестывалю ўдзельнічае болей за 200 маладых рэкламістаў і спецыялістаў сферы камунікацыі.

Дзякуючы фестывалю рэкламы па-беларуску робіцца больш!

**Рэгіянальная дзейнасць (спрыянне развіццю лакальных супольнасцяў),** а менавіта правядзенне з 2011 года публічных дыскусій ва ўсіх буйных гарадах Беларусі на тэму мясцовага развіцця на глебе нацыянальнай культуры і “Кірмашоў праектаў” з мэтай актывізацыі мясцовых ініцыятываў, пошуку імі аднадумцаў.
Вынікі:

- Да праектаў у Віцебску і Магілёве далучыліся мясцовыя адміністрацыі;
- У Магілёве паўстаў цэнтр гарадскіх ініцыятываў;
- Было рэалізавана болей за 70 грамадскіх культурніцкіх праектаў;
- Падобныя формы мерапрыемстваў перанялі іншыя грамадскія ініцыятывы.

Як адзначана ў дакладзе НІСЭПІ ў 2014 годзе, абазнанасць насельніцтва ў дзейнасці грамадскіх аб’яднанняў вырасла з 27% у 2012 г. да 52% у 2014 годзе, у тым ліку і дзякуючы рэгіянальнай актыўнасці кампаніі “Будзьма беларусамі!”.

**Іншыя праекты**

- Майкі для зборнай Беларусі па тайскім боксе. Першы рэбрэндынг спартовай формы;
- Каляндар “Не маўчы па-беларуску”, 7-тысячны наклад, некалькі перавыданняў;
- Паштоўкі “Не маўчы па-беларуску”, наклад болей за 10 000, шырока выкарыстоўваюцца ў школах і садках для навучання мове;
- Паштоўкі “Беларускія святы”;
- Раскладка па-беларуску для клавіятуры;
- Анімаваная азбука для iPad;
- Анлайн-праекты, сярод якіх самы яркі —“Край|BY”.

<u>Гэтыя і многія іншыя праекты, як і агулам методыка працы кампаніі “Будзьма!” сталі прыкладам для іншых і падштурхнулі розныя супольнасці да стварэння падобных ініцыятываў, тым самым умацоўваючы тэндэнцыю вяртання беларускай культуры ў сучаснае штодзённае жыццё.</u>

Сёння ў Беларусі паўстаў ужо цэлы шэраг грамадскіх культурніцкіх ініцыятываў, якія папулярызуюць мову і культуру. Часцей пачалі выкарыстоўвацца беларускія сімвалы ў рэкламе, у вопратцы, зацікавіўся бізнес. Наколькі глыбокія гэтыя працэсы, можна будзе ацаніць пазней. Але паглыбленне ідэнтычнасці ў Беларусі будзе ўплываць і на дыяспару, рабіць больш трывалымі беларускія асяродкі ў замежжы, пашыраць метады і формы супрацы з ёй.

Трэба адзначыць, што дыяспары з часам будзе надавацца ўсё большая ўвага ў свеце. Мы жывем у эпоху сапраўднага перасялення народаў (і гаворка ідзе не пра наступствы катаклізмаў і войнаў, а пра тэндэнцыі, звязаныя з натуральнай для сучаснага чалавека міграцыяй). Кожны год па ўсім свеце мігруе каля 3 мільёнаў чалавек. Сёння сусветная дыяспара налічвае 215 мільёнаў. Навукоўцы мяркуюць, што гэтыя працэсы будуць інтэнсіўна развівацца, і колькасць дыяспары ў свеце у 2050 годзе дасягне ужо 405 мільёнаў. А гэта значыць, што дыяспара будзе рабіцца ўсё больш заўважнай і ўплывовай сілай, а яе капітал (эканамічны, сацыяльны, інтэлектуальны) будзе ўзрастаць.

У выніку найбуйнейшыя краіны свету актывізуюць працу з дыяспарамі. Яны робяць актыўныя захады, каб знайсці і ўмацаваць сувязі з прафесіяналамі розных сфераў, прыцягваючы іх да выканання нацыянальных праектаў. Раней плынь людзей ішла толькі ў адным кірунку — за мяжу. Сёння краіны, якія актыўна працуюць са сваімі дыяспарамі, назіраюць зваротную плынь у выглядзе ідэй, інавацый, капіталу і тэхналогій. З кожным годам свет усё больш глабалізуецца, робіцца узаемазвязаным і ўзаемазалежным. І кожная краіна, якая хоча атрымаць максімум выгады ад гэтай узаемазалежнасці, актыўна стварае і развівае комплексныя сеткі з людзей для атрымання сацыяльнай, эканамічнай і культурнай карысці. А дыяспара, па сутнасці, якраз і ёсць такой сеткай, удзельнікі якой могуць быць мабілізаваныя для дасягнення супольнай выгады, стаць мостам для атрымання ведаў, экспертнай дапамогі, рэсурсаў і выхаду на іншыя рынкі для сваёй краіны.

Мы бачым, як азіяцкія краіны, такія як Індыя, Кітай, Паўднёвая Карэя, змаглі эфектыўна наладзіць супрацоўніцтва з сваімі дыяспарамі і як апошнія паўплывалі на іх сацыяльную і эканамічную трансфармацыю. Гэта ўзнікла на грунце супольных мэтаў дзяржавы і дыяспары, падмацоўвалася паслядоўнай палітыкай і адміністрацыйным рэсурсам. І дыяспара разглядалася не як крыніца фінансавання, а як паўнавартасны партнёр.

Мы лічым, што такі падыход вельмі важны і перспектыўны для Беларусі. Інакш наша краіна вырачаная на адставанне і стагнацыю ў розных сферах. Больш чым трохмільённая беларуская дыяспара — гэта велізарны патэнцыял нашай краіны і рэсурс, якому мусіць з кожным годам надавацца ўсё больш увагі як з боку грамадства, так і з боку бізнесу і дзяржавы.

Падсумоўваючы вышэйсказанае, мы — прадстаўнікі Згуртавання “Бацькаўшчына” — перакананыя, што развіццё Беларусі як дэмакратычнай дзяржавы магчымае толькі калі мы будзем аб’яднаныя супольнымі каштоўнасцямі нашага народа,

гісторыі і культуры. У захаванні нацыянальнай ідэнтычнасці, у яе паглыбленні, у дэмакратычнай трансфармацыі Беларусі беларуская дыяспара адыгрывае вельмі важную ролю: і як захавальніца нашых палітычных інстытутаў, і як прадстаўніца беларускага народа ў свеце, і як раўны партнёр у грамадскіх, палітычных, культурна-асветніцкіх, сацыяльных і эканамічных праектах. Стварэнне ж ці ўдзел дыяспары ў прафесійных сетках будзе спрыяць эканамічнаму росту краіны і рэформе яе мадэлі кіравання.

Асяродкі беларускай дыяспары — гэта нашыя іміджавыя цэнтры ў замежжы, менавіта яны спрыяюць лаяльнасці да нашай культуры, ствараюць зацікаўленасць у ёй, будуюць давер паміж народамі, з'яўляючыся своеасаблівай "мяккай сілай".

Безумоўна, працэсы ўзаемадзеяння нашай краіны і беларусаў замежжа маглі б ісці нашмат хутчэй і больш эфектыўна, калі б афіцыйная Беларусь і дыяспара мелі агульныя погляды на нацыянальнае будаўніцтва краіны. Але тым не менш нават у неспрыяльных умовах (а ў нашай гісторыі іх было багата) мы павінныя выкарыстоўваць усе наяўныя магчымасці для развіцця нашай краіны і адстойвання яе незалежнасці.

## M. Paula Survilla: The Persistence of Memory and Formation of Identity - Migration and the Homeland in Belarusian Experience



**Dr. Maria Paula Survilla** received her Bachelor of Music form the University of Ottawa, her Masters in Musicology and Ph.D. in Ethnomusicology from the University of Michigan at Ann Arbor. A Fulbright-Hayes scholar, she researches the role of contemporary music (urban rock and popular genres as well as rural ritual music) in the construction of personal and national identities in post-Soviet Belarus and in the Diaspora. Her dissertation on the topic was adapted and published in the series Outstanding Dissertations as *Of Mermaids and Rock Singers: Placing the Self and Defining the Nation Through Belarusian Contemporary Music* by Routledge in 2002. Her latest publication on Belarus can be found in the volume *Music and Diplomacy* (Palgrave 2015). She has presented at over 30 North American and International conferences and published chapters, articles in juried journals, genre encyclopedias, and academic reviews throughout her career. Dr. Survilla is the Executive Director of the Center for Belarusian Studies, dedicated to encouraging the growth of healthy civil society in Belarus though programs in higher education. She is Professor of Music/Ethnomusicology at Wartburg University in Waverly, Iowa, where she held the Harry and Polly Slife Endowed Professorship in the Humanities between 2010-2016.

In 1931, Spanish surrealist Salvador Dali produced the collage entitled “The Persistence of Memory.” Rendered using oil on canvas, it is a well-recognized example of the genre, and a well-known image in Western-centric popular culture. His unexpected juxtapositions and manipulations of recognizable objects is as much a useful aspect of this work as the image it communicates. I am sure many in this room recognize the work and have personal opinions about the meaning of the image, whether you have seen the original, or have seen the image on one of the varied and at times bizarre objects on which it is found in the marketplace.[1] Considered a commentary about time and the lack of permanence of the human condition, the melting clocks also lend themselves to other interpretations.



Figure 1: Salvador Dali’s The Persistence of Memory (1931)

[1] Not only is this image found on a myriad of objects in our current material culture, but the fascination with the image and its implications is evidenced in its use by many diverse scholars and disciplines as a reference point in their discourse (neurology, psychology, engineering to name a few). The image at once invites collective and highly individualized interpretations.

An image such as this is a good place to begin an exploration of topics that are by their nature subjective and personal, and at the same time linked to recognition and ideas of collective belonging. Memory and identity are intimately intertwined. They are tied to our life experiences and our relationships with others. Our world-views are especially guided by our memories of events, traumas, achievements, of loss and of love, and the significance and resonance of those moments. Memory and identity also exist as elements of persuasion, as recognized components of cultural and social change, of political constructions and power, and of cultural framing. In my discipline, these aspects generate discourse about culture, political change, and adaptations to a changing local and global landscape. The list is not a passive one. Whether we are members of a diaspora or not, identities and cultural constructions are in constant flux as environments and social and cultural politics continually change. The most obvious locations are linked to our personal lives, the place of migration, and the relevance of the homeland in our world-views.

In my experience as a scholar of things Belarusian and as a first generation Belarusian, being Belarusian has required the negotiation of memory, experience, and identity in constant relationship with homeland and with migrant spaces. It has also meant recognizing the presence of collective memories and identities – as agreed upon and performed by Belarusian communities for their own membership as well as somewhat differently for outsiders. As a child frequenting the Belarusian community in Toronto, as an invited member of the dance troupe Vasilok during my time in graduate school, and as doctoral researcher living first in Bielastoccyna and then in Miensk, the multiple community perceptions of identity that I encountered complemented or contrasted with the nature of my own personal experience and Belarusian world view. Similarities are an easy aspect of these experiences, but the challenge as a cultural scholar was, and remains, to reconcile that my tool kit of memories, of assumptions, and of identity was unique … and that it was my job and my challenge to understand and to respect what I did not recognize. What has become evident is that there is no "one" way to be Belarusian since the personal components of identity are defined by private and singular journeys. What can be identified are the more resonant themes that have and continue to play a role in defining memory and identity for a Belarusianess, potentially informed by perceptions of homeland and community life in the Diaspora.[2]

As many of us are aware, geographical separation from a "homeland" as a perceived cultural "core" in no way diminishes its presence in the manifestation of our personal

[2] Agunias, Dovelyn Rannveig, and Kathleen Newland. Developing a Road Map for Engaging Diasporas in Development: A Handbook for Policymakers and Practitioners in Home and Host Countries. Geneva, Switzerland: IOM/MPI, 2012: 2)

identities (whether our perception is positive or negative). It is in the intersection between our personal identities and a sense of contribution to a collective presence and community life that a "persistence of memory" can become a foundation for that life. It can also become the site of negotiation for how a group sees itself, how the members engage in community, and our relationship to our communities in the context of a broader global space.

The 2012 report by the International Organization for Migration/Migration Policy Institute offers the idea that members of diasporas are by nature, transnational since:

*…they are actual or potential bridges between countries through their […} shared sense of belonging [where] …Networks, identities, and belonging are of course complex and interrelated aspects that define one's personal history, rather than that of a group* (Policy Makers, 2).

My focus on this description reflects the assumption that being Belarusian is not exclusively tied to active relationships with the homeland or to the "recentness" of migration. Migration is a process of loss and rediscovery. I use the words "cultural reinvention," not because what was present before has lost its value, but because new conditions demand new perceptions and new approaches to cultural participation. This same policy report, which was written as a background paper for those exploring the empowerment of world Diasporas (through a series of symposia at the UN) is helpful in describing the ways in which a Diaspora community behaves in relation to its identity and its relationship with the "homeland." The authors define the active parameters of community empowerment as the "mobilization of resources" (2). The importance of the Diaspora is directly tied to the engagement and contribution to these resources, or what the authors call "capitals." These capitals are divided into human, social, economic, and cultural categories and clarify what are keys to the strength of a community. As we shall see, these "capitals" offer a means for discussing community action, degrees of empowerment and priorities, and comparisons with other Diaspora groups who benefit from action in the same migrant spaces.

## Migration, Loss, and Reinventions

For Belarusian immigrants of the mid-twentieth century[3], my parent's generation, migration meant forced severing of contact with family, home, communities, social and

[3] At the turn of the twentieth century, the conditions for immigration to North America were defined by a very different context. Much of that migration was influenced by economic stress. In that period, the orientation of the Belarusian immigrant in the United States was much affected by the labeling of new immigrants as Russian or Polish due to religious identity and due to perceived geographic ambiguity in territorial names in Belarus. See Survilla, Maria Paula. "Terminology, Controversy, and the Interpretation of History" in Of Mermaids and Rock Singers: Placing the Self and Constructing the Nation through Belarusan Contemporary Music. New York: Routledge, 2002.

class status, language, and economic stability. There is the story of the young man who, in leaving, could not contact his siblings or his parents and found out his mother had died years after her passing. The shock of loss was compounded by the realization that he had lived with the hope of seeing his parents again, even when that hope could no longer be fulfilled. These lives and experiences deserve their own ethnographies.

Many conditions of migration were filled with periods of trauma and poverty. Many had no choice but to leave, and many left, not for economic reasons, but because they were at risk as a result of their advocacy, their politics, their use of the Belarusian language – the stories are many. Under these stresses, those who left also did so with a profound sense of loss – while carrying a considerable burden of responsibility. They saw themselves as keepers of culture, history, of language, of music, of literature, of ideals of independence, of lifestyles and rituals, keepers and protectors of a Belarus. Despite their displacement, Belarusians found one another. Despite their economic challenges, they organized, they celebrated, they marked important moments, and educated their children. Many Belarusians in these migrant spaces performed their identities and are part of a history of Belarus that is concrete, present, dynamic, and that cannot be ignored. As each new generation enriches the Diaspora, they come to an established space that has been negotiated and nurtured by those that came before them. Those newly engaged in migration are often unaware of the legacy of those earlier communities.

Diaspora history is tied to mobility and cannot concretely depend upon even an imagined sense of homeland as a source for stability. The conditions and reasons for migration change. The social and political conditions of the homeland itself are also in process. As a result, the “homeland” as a construction that informs memory and identity becomes something quite different in the changing collective and agreed-upon memory of a community. In my own early research of the Diaspora in the early 1990s,[4] I explained the connections between three parallel conditions in Diaspora efforts towards the collective and official (here public) definition of identity in the host immigrant environment. These help to explain the energies that connect internal community activities to external education and recognition of those identities, and eventually to affecting attitudes towards Belarus in discourse and at the policy level (here I mean government policies towards Belarus). As the diagram illustrates, these three conditions can be labeled as the negotiation of the authentic, efforts towards outreach, policy formation.

[4] Survilla, Maria Paula. Music and Identity: Belarusans Making Music in North America. Master's thesis, University of Michigan, 1990.

Figure Two: The intersection of memory and identity formation with community life and political voice.




**Authenticity**

The negotiation of the authentic reflected at once the loss of homeland and the responsibility for ensuring the survival of Belarusian culture. The stance is one of protection and of resistance to what is viewed as political conditions and colonial cultural management. Belarusian communities are not alone in experiencing this approach to their cultural expression. Ireland's colonial experience with England is one such example. The encountered denial of the existence of Belarus, or the denial of the existence of a Belarusian culture or language, motivated a need to assert ones identity and to explain what Belarus is not. With this sense of the authentic came a concrete idea of what the homeland should be, an expectation that could not necessarily be reconciled when access to Belarus became possible. Living in Miensk during the adradzennie period, I came to identify the frustrations of those committed to different definitions of Belarus and to differing tolerances and demands for the authentic. As much as Diaspora members were convinced of their position, some Belarusians in Belarus expressed their right to things Belarusian by virtue of the fact that they had not left. The dynamic is fascinating as much as it is frustrating. It brings into focus the disconnection between a perceived authority

гарадская буржуазія. На беларускіх землях склалася так, што, нягледзячы на тое, што беларусы складалі пераважную большасць ад усяго насельніцтва (94,7% ці ў абсалютных лічбах – 5 млн 711 тысяч чалавек) (у прыватнасці, Дарота Міхалюк, там жа, с. 47), яны былі пазбаўлены, ізноў пазбаўлены сваей нацыянальнай эліты, якая і з'яўлялася рухавіком стварэння навачэснай супольнасці нацыянальнага характару. Такая большасць, якой магла б належаць роля галоўнага нацыявытворчага актора была прадстаўлена на гэты час яўрэйствам, якое, безумоўна, не магло выступаць у якасці носьбіта беларускай нацыянальнай ідэі. (Зразумела, што на тагачаснай беларускай тэрыторыі суіснавалі прадстаўнікі не толькі двух вышэй адзначаных, але і іншых этнічных груп, сярод якіх вылучаюцца перш за ўсе рускія і палякі - у адпаведнасці з колькасцю, але яны не адыгрывалі самую істотную ролю ў рамках дадзенай праблемы – Г.Т.).

На нашу думку, тут трэба дадаць літаральна некалькі лічбаў для больш поўнага ўяўлення тагачаснай беларускай рэчаіснасці. Яўрэі, пра якіх толькі што ішла гаворка, прадстаўлялі другую па колькасці, пасля беларусаў, этнічную групу насельніцтва і складалі больш за 14% ад усяго насельніцтва, але яны былі асноўнымі жыхарамі гарадоў: у губернскіх і павятовых прадстаўлялі 46,1%, а ў меншых паселішчах, - тых, што мы называем «мястэчкі» - Г.Т. – 53,9% насельніцтва) (Дарота Міхалюк, тамсама, с. 48). Беларусы ж жылі пераважна ў сельскай мясцовасці. Так, Дарота Міхалюк спасылаецца на дадзеныя, згодна з якімі напрыканцы 19 ст. толькі 5,86% беларусаў пяці беларускіх губерняў жылі ў гарадах (с. 55). Парадаксальнасць сітуацыі складалася і ў тым, што калі, напрыклад, у Мінску (Менску) на той жа час жыло каля 8,5 тысяч беларусаў, то ў Маскве іх было 16 тысяч, а ў Санкт-Пецярбургу 66,5 тысяч, а перад Першай сусветнай вайной – ажно каля 100 тысяч. (Дарота Міхалюк, с. 48).

Такім чынам склалася, што беларуская гістарычная рэчаіснасць не дала шансаў кансалідаваць беларусаў на аснове, найперш, вылучэння беларускай шляхты ў самастойную сілу, што перашкаджала і потым, ужо ў другія лёсавырашальныя гістарычныя моманты. Такая рэчаіснасць не толькі не давала беларускаму шляхецтву выкрысталізавацца і пазбаўляла, у значнай ступені, прызнання за беларусамі вялікай долі сваёй культурнай спадчыны, але і размывала – цягам стагоддзяў – самую існасць шляхты, яе самасвядомасць, ды параджала комплексы непаўнавартасці. Потым, як мы толькі што разгледзелі, гісторыя «у межах расійскай дзяржаўнасці» таксама не дала беларусам магчымасці выдзяліцца ў асобную нацыятворчую сілу. Шматнацыянальны склад насельніцтва беларускіх гарадоў (што было следствам папярэдняга перыяду гісторыі ў спалучэнні з вынікамі палітыкі расійскага ўраду – Г.Т.) прывеў да таго, што тут, на беларускай прасторы напрыканцы 19 - пачатку 20 ст. скlaліся і канкуравалі тры

нацыянальныя ідэі - беларуская, польская і расійская, і дзе – у канкрэтна-гістарычных умовах – беларуская ідэя не магла перамагчы.

На нашу думку, ні для каго з сучасных беларусаў не сакрэт, што нават да гэтага часу застаецца адчуванне пазбаўленасці той часткі гістарычнай спадчыны, што вылучыла б беларусаў як цэлае, як нацыю шмат гадоў таму назад. Гэта - адна з непапраўных і самых балючых хібаў беларускай ідэнтычнасці на сёння.

Наступнай праблемай беларускасці, што бярэ пачатак у той жа лёсавырашальны шмат у чым перыяд ВКЛ, з'яўляецца праблема са становішчам беларускай мовы.

Так сталася, што менавіта на яго прыпадае і ўзлет, і пачатак заняпада беларускай мовы ў сэнсе яе афіцыйнага выкарыстання і прызнання. Узорамі ўзлету назавем Статут ВКЛ, Першая яго рэдакцыя, 1529 г. (у прыватнасці, Т. Снайдэр, Рэканструкцыя нацый, 2010, с. 37-38) ды значная частка Бібліі Ф. Скарыны (Т. Снайдэр, тамсама, с. 37). Але паступова польская мова займае дамінуючыя пазіцыі і з канца 16 ст. выцясняе (стара)беларускую і лацінскую мовы ў якасці адміністратыўнай мовы, а да таго ж становіцца мовай літаратуры і адукацыі, і адначасова мовай шляхецтва. Усё элітарнае, высокае звязваецца з гэтага часу з польскай мовай. Ужыванне беларускай мовы паступова звужаецца да гутарковай мовы сялянства і часткі дробнай шляхты (на ўсходзе і паўночным усходзе Беларусі – Г.Т.; дарэчы, уся беларуская шляхта ею таксама валодала, але паміж сабою карысталася польскай мовай – Г.Т.). Нагадаем таксама, што беларуская мова доўгі час заставалася мовай уніяцкай царквы пакуль - ужо расійскімі ўладамі (1839г.) - не была ліквідавана сама царква, якая праіснавала у Беларусі 243 гады!

Што тычыцца – як мы бачым - ўжо часоў расійскай імперыі, то акрамя закрыцця ўніяцкай царквы, афіцыйныя ўлады паступова, ужо к сярэдзіне 19 ст. скасоўваюць адно за другім праўленні «іншаземнасці» ці «варожасці» далучаных «ад Польшчы» земляў. Тут коратка нагадаем толькі некаторыя мерапрыемствы царызму: забарона ўжываць беларускую мову ў касцёле, увядзенне ў справаводства (з 1832 г.) рускай мовы (дагэтуль вялося па-польску), забарона саміх назваў «беларускія» і «літоўскія губерні» як і «Беларусь» і «Літва» (імператарскім указам ад 18 чэрвеня 1840 г. – Г.Т.). Адтуль бярэ пачатак ужыванне абразліва-безаблічных афіцыйных назваў «Паўночна-Заходнія губерні» ці «Паўночна-Заходні край» (а разам з трыма губернямі Правабярэжнай Украіны – «Заходнія губерні – Заходні край»). Нарэшце, у тым жа 1840 годзе адбываецца адмена дзеяння Статута ВКЛ 1588г (г.зн. Трэцяй яго рэдакцыі), што датуль заставаўся дзеючым кодэксам права. (Г.Т., Дворянство Белорусии.., 1995, с. 48-50) і зачыняецца Віленскі універсітэт. Так пачалася барацьба з «духам краю».

Наогул, непрызнанне беларускасці як любой іншай «-скасці», акрамя агульнарасійскай, не абмяжоўвалася толькі палітыкай ці ідэалогіяй, але ішло значна глыбей, пранікала ў рускую літаратуру і культуру, прасочвалася ў грамадскую свядомасць. Не абыйшло гэта, не магло абыйсці і лепшых пісьменнікаў. Так, у А.П.Чэхава, напрыклад, ці ў Ніны Берберавай, адной са знакавых постацяў сярод пісьменнікаў «белай эміграцыі» мы неаднойчы сустракаемся з тэрмінамі накшталт «Заходнія губерні».

Дазволім сабе яшчэ некалькі лічбаў, перад тым як перайсці да нашых дзён. Вядома, што па падзелах Рэчы Паспалітай да Расіі адыйшлі тэрыторыі з насельніцтвам каля 5,5 млн чалавек, з якіх на долю Беларусі – па розных падліках – прыпадае ад 3 да 4 млн. (Гісторыя Беларускай ССР у 5 тамах, 1972; М. В. Доўнар-Запольскі, Гісторыя Беларусі, 1994). На жаль, іншыя, больш «красамоўныя» даныя па важных паказчыках, такіх як веравызнальны ці этнічны склад насельніцтва адсутнічаюць. Іх папросту няма.

Потым, праз стагоддзе мы маем ужо дакладныя лічбы па першаму агульнаму перапісу насельніцтва Расіі (1897 г., даныя апублікаваныя ў 1905 г. – Г.Т.), якія даюць вельмі добрае ўяўленне пра этнічны і сацыяльны склад насельніцтва. І вось, паводле гэтых даных, якія мы ўжо нагадвалі вышэй 5,711млн чалавек з пяці беларускіх і некаторых паветаў іншых губерняў (Смаленскай, Чарнігаўскай, Курляндскай і Ковенскай), што – як мы памятаем – складала 94.7% насельніцтва, назвалі беларускую мову роднай, і менавіта на гэтай падставе былі залічаныя да беларусаў.

Што мы маем на сёння? З гэтых больш чым 5,5 млн чалавек напрыканцы 19 ст. цяпер у Беларусі (без уліку дыяспары) налічваецца 9, 5 млн чалавек, з якіх 2,5 млн жывуць у Мінску. Паводле перапісу насельніцтва 1999 г. 73,7% назвалі сваёй роднай мовай беларускую і 36,7% з іх пры гэтым дадалі, што выкарыстоўваюць яе паўсядзённа (Galina Toumilovitch, La langue, le territoire et l’histoire dans le processus d’identification en Biélorussie.., 2014, p.163). На 2010 г мы маем даныя аб тым, што насельніцтва Беларусі за папярэднія 10 гадоў скарацілася на 541 тыс. (з 10 млн), а таксама, што 75% беларусаў жывуць у гарадах і, нарэшце, тое, што сярод усяго насельніцтва роднай мовай беларускую лічаць 60%. (Г.Т.). Пры гэтам мы маем, - даныя ўжо на 2015 год: 99,9% вну, 86% сярэдніх школ, а таксама 90% дзіцячых садкоў на рускай мове.

Што гэта значыць і як да гэтага ставіцца? Адносна лічбаў па насельніцтву, мы нагадваем іх больш для агульнага ўяўлення. Што ж тычыцца апошніх паказчыкаў, то гэта значыць ці сцвярджае, што мякка кажучы, Беларусь па-ранейшаму існуе ва ўмовах двухмоўя, з надзвычай вялікай распаўсюджанасцю рускай мовы, і дзе пазіцыі мовы навучання амаль выключна належаць таксама рускай мове. Адвечная беларуская адметнасць, што заўседы выклікала і выклікае заклапочанасць, і нават ужо даўно не патрабуе – для беларусаў – тлумачэння ў тым сэнсе, чаму так здарылася.

Вышэй мы ўжо разгледзелі агульны шлях і паказалі неспрыяльныя ўмовы развіцця беларускай мовы на працягу доўгага гістарычнага часу, які нельга ніяк звесці толькі да савецкай эпохі. (Для тых, хто асабліва цікавіцца, можам прапанаваць іншыя працы, дзе пытанне прычын сучаснага стану беларускай мовы разглядаецца асобна – Г.Т.). Як мы ўжо бачылі, заняпад пачаўся значна раней, хаця гэта ніяк не абвяргае таго факту, што ў савецкія часы становішча толькі пагоршылася. Сярод найбольш разбуральных у гэтым сэнсе былі «культурныя» чысткі ў рамках барацьбы з нацдэмам, беспрэцэдэнтныя, страшэнныя страты ў гады Другой сусветнай вайны, пасляваенная дэмаграфічная палітыка савецкага ўраду, што прывяла да перасялення ў Беларусь сотняў тысяч з розных рэгіенаў СССР, якія не мелі нічога агульнага ні з культурай беларускай, ні з мовай яе. Безумоўна, былі сярод іх тыя, хто хацеў нешта спасцігнуць у гэтым напрамку, але значная частка «перасяленцаў» належала ці да змаргіналізаваных слаеў тагачаснага грамадства – якіх не турбавалі наогул праблемы «вышэйшага парадку» (мова-культура-асвета), ці вылучалася сваёй непрыкрыта-здзеклівай пазіцыяй у стаўленні да ўсяго беларускага і, у першую чаргу, мовы. Аднак, паўтараем, гэта толькі пагоршыла становішча, якое амаль ніколі (з канца 16 стагоддзя) – за выключэннем кароткіх перыядаў нацыянальнага адраджэння ці ўздыму – не было спрыяльным для беларускай мовы.

Так выглядала і сітуацыя на пачатак постсавецкага перыяда, калі - апроч нешматлікіх прадстаўнікоў культурных эліт ды некаторых акадэмічных колаў - у гарадах беларуская мова амаль не прысутнічала. У весцы яна заставалася дзякуючы існаванню пачатковых, васьмігадовых і сярэдніх школ з беларускай мовай навучання і, зразумела, мове саміх сельскіх жыхароў, але гутарковая мова была поўная дыялектаў, у гарадах жа часта гучала «трасянка». Становішча з мовай было настолькі відавочным, што дало падставы для некаторых аналітыкаў таго часу выказаць прапанову аб тым, каб першапачаткова, ва ўмовах ужо незалежнай Беларусі, дапусціць існаванне так званага «рускамоўнага беларускага нацыяналіста» (на ўзор крэольскіх ідэнтычнасцяў, што выкарыстоўвалі чужую мову (Г.Т.). Гэта канцэпцыя не прайшла.

Сёння пагроза для існавання беларускай мовы застаецца. Не будзем забываць пры гэтым, што навукоўцы ў цяперашні час прадугледжваюць знікненне да канца гэтага стагоддзя **паловы** з існуючых на сёння моў! Некаторыя з іх прапануюць – з гэтай нагоды - вывучаць замежную/ыя мову/мовы і як варыянт – англійскую. Але тут ужо антыглабалісты баяцца, што яна ўсіх паглыне... Адсюль і рэгіянальныя рухі ў Брэтані, Уэльсе, што заклікаюць да вывучэння і захавання сваіх моў.

Але вернемся да Беларусі, дзе моўная рэчаіснасць, што гістарычна склалася не на карысць беларускай мове, не можа не выклікаць занепакоенасці.

Нельга не пагадзіцца, на нашу думку, з тымі эпітэтамі, што дадаюць да характарыстыкі беларускай мовы даследчыкі-моваведы, якія вызначаюць яе прыгажосць, мілагучнасць, мяккасць, а таксама вылучаюць трапнасць і багацце яе лексікі. Таму нездарма, як сведчаць навукоўцы, асобнага развіцця ў беларускім мовазнаўстве дасягнула дыялекталогія і лексікалогія наогул. (А.Лукашанец, Мова і духоўнае жыцце грамадства, 2008). Разам з тым яны падкрэсліваюць, што беларускі фальклор уяўляе сабой вельмі адметную з'яву сярод іншых славянскіх народаў, а беларускія народныя казкі – наогул унікальны фенамен па разнастайнасці тэматыкі і жанраў, і гэта прытым, што амаль на працягу двухсот! гадоў беларуская мова пісьмова не выкарыстоўвалася. (А.Лукашанец, тамсама).

Такія станоўчыя фактары выклікаюць не толькі пачуцце павагі і гонару да беларускай мовы і за яе, але і падтрымліваюць пазіцыю за ўзмацненне яе ролі на ўсіх узроўнях – ад літаратурнай да гутарковай, а таксама накіроўваюць да пошука новых і розных сродкаў яе культывацыі. Так, гэта – наша мара і самае шчырае пажаданне. Аднак аб'ектыўнасць патрабуе сказаць, што дасягнуць гэтага на сёння цяжка, калі нават магчыма. Мы павінны лічыцца з існаваннем і моцнымі пазіцыямі рускай мовы ў беларускім культурным ландшафце. Гэта нельга не прызнаць на сёння, і самі даследчыкі-моваведы гэта таксама прызнаюць. (А.Лукашанец, тамсама).

Так, напрыклад, Аляксандр Лукашанец гаворыць аб тым, што наша двухмоўе працуе і на нашу карысць, з чым таксама нельга не пагадзіцца. Вядома, што валоданне іншай, у тым ліку і рускай мовай, робіць даступнымі і культурныя здабыткі, што захоўваюцца на гэтых, іншых, мовах. Так, амаль кожны з беларусаў - калі хоча – можа глядзець тэатральныя п'есы па-руску, чытаць у арыгінале А.П.Чэхава, І.А.Буніна ці А.С. Пушкіна. – А які-такі «человек из Москвы» патрапіць зразумець нашага В. Дуніна-Марцінкевіча ці Янку Купалу з Максімам Багдановічам? Гэта дае перавагу, дарэчы, не толькі ў культурным сэнсе, але і ў сацыяльна –культурным і нават псіхалагічным: мы больш ведаем менталітэт і псіхалагічны тып тых людзей, чыей мовай мы валодаем.

Аднак яшчэ адна заўвага «культурнага плану». Так, для нас бясспрэчна, што ніводзін пераклад, якім бы дасканалым ён ні быў, – асабліва гэта тычыцца паэзіі – не патрапіць данесці ўсе хараство арыгінала, - асабліва з пункту гледжання мовы твора і ідэнтычнасці культуры, да якой ён належыць.

Дарэчы, безадносна да рускай мовы і Беларусі, такога «мезал'янсу», да якога нас падвяла гісторыя, на сёння навукоўцы сцвярджаюць і паказваюць на фактах, што

двухмоўе мае, акрамя згаданых намі вышэй пераваг культурнага, культурна-сацыяльнага і псіхалагічнага плану, нават псіха-фізіялагічныя перавагі.

Дарэчы, па розных падліках на сёння ў свеце такіх людзей, што валодаюць як мінімум двума мовамі ад 60% да 75% (BBC, Mosaic&Future, 2016). Так, на сёння ёсць звесткі, паводле якіх спецыялісты сцвярджаюць, што двухмоўныя людзі хутчэй папраўляюцца пасля інсульту, яны пазней сутыкаюцца з узроставай дэменцыяй і, у прыватнасці, хвароба Альцгеймера закранае іх пазней.

Аднак якія даныя на карысць двухмоўя мы б ні прыводзілі, яны, на жаль, не могуць дапамагчы выпрапівіць складаную моўную сітуацыю ў Беларусі. Такім чынам, яны гучаць - з нашага пункту гледжання – значна больш як суцяшальныя, чым абнадзейлівыя. У той жа час, як бы мы ні ставіліся да моўнай сітуацыі ці так званага руска-беларускага двухмоўя, не меншую заклапочанасць выклікае і беларуская літаратура, якая – на нашу думку – павінна быць, калі не ўся (але як бы хацелася!), то ў пераважнай большасці сваёй, беларускай у сэнсе беларускамоўнай.

Так, ёсць меркаванне, што беларуская літаратура можа існаваць і на рускай мове, галоўнае, каб творы былі нацыянальнымі, беларускімі па зместу. Прыхільнікі апошняга прыводзяць часта прыклад Алеся Адамовіча, чыя грамадзянская і нацыянальная пазіцыя не падлягае сумневу: ён быў шчырым барацьбітом за лепшую будучыню Беларусі ў гады савецкай улады і гарбачоўскай перабудовы і, разам з тым, пісаў на рускай мове. Што ж, наш адказ будзе: на вялікі жаль так, ён пісаў па-руску.

Нейк на прасторах facebook-у, на старонцы аднага з маіх вельмі паважаных беларускіх сяброў, трапіў на вочы ліст В. Быкава да А.Адамовіча, дзе Васіль Быкаў захапляецца мовай Алеся Адамовіча і выводзіць, што толькі па-руску можна было патрапіць так красамоўна напісаць. Потым ён дадае, што яго ж уласная (В. Быкава) пісьменніцкая мова, стыль яго падаюцца яму «насценгазетнай». Такая адзнака самога В.Быкава можа збянтэжыць. Аднак, на нашу думку, справа тут не ў дасканаласці ці недасканаласці мовы, а проста ў аўтарскім стылі самога пісьменніка, які, зразумела, можа быць розным. Дарэчы стыль В. Быкава, які на самой справе быў недзе падобны да стылю дзённіка, як ніякі іншы – здаецца – адпавядаў, быў сугучным тэматыцы і жанру яго твораў, у большасці сваёй прысвечаных вайне, страшнай, крывавай вайне, якая ставіла амаль перад усімі яго персанажамі праблему выбару. Так, Васіль Быкаў па стылю – не Гюстаў Флабэр. І не трэба, ад гэтага яго творы не менш каштоўныя, магутныя і прыгожыя.

Калі ж мы хочам даць узор беларускага пісьменніка, што пісаў на надзвычай прыгожай, лёгкай і празрыстай беларускай мове, то можам звярнуцца да Уладзіміра Караткевіча.

Нельга не ўзгадаць, гаворачы пра У. Караткевіча, што яму мы абавязаны не толькі мовай, але і жанрам, і тэматыкай. Менавіта з яго творамі ў беларускую літаратуру прыходзіць – у савецкі час! – новы герой, шляхціц, гэта яму належыць, такім чынам, вынаходніцтва шляхецкай Беларусі, што садзейнічала фармаванню нацыянальнай самасвядомасці беларусаў не толькі як нашчадкаў сялян, але і шляхты. Так, ён быў першым у напрамку шляхецкай тэматыкі, якую прадоўжылі потым Алег Лойка і Васіль Зуёнак, Янка Сіпакоў і Вольга Іпатава, Кастусь Тарасаў і Леанід Дайнека. Але, паўторым, – галоўная яго роля для беларусаў у тым, што ён спрыяў развіццю, як сёння б сказалі «гістарычнага наратыву» аб нашым мінулым як аб гераічным і заслугоўваючым пашаны.

Хай трошкі міф, трошкі легенда, але без іх не абыйшлося ўзнікненне і развіцце ніводнай нацыянальнай самасвядомасці, ніводнай, - з вядомых нам на сёння, - нацый-дзяржаў.

І на сёння ён і яго спадчына знаходзяцца там, дзе і роля Я. Купалы, М. Багдановіча, В. Быкава, знакамітых адраджэнак Ларысы Геніюш, Зоські Верас, Наталлі Арсенневай, Канстанцыі Буйло, а таксама там, дзе роля Івонкі Сурвіллы, усё жыццё якой прыклад самаадданага служэння беларускай ідэі.

На гэтым, здаецца, можна паставіць кропку. Але зацікаўлены, ці наадварот, расчараваны чытач можа запытаць, а як жа з адказам, што Беларусь возьме з сабою ў эпоху глабалізацыі? Самі высновы, да якіх мы прыйшлі ў ходзе і выніку працы, дазваляюць сфармаваць, на наш погляд, даволі поўнае ўяўленне аб тым, з чым Беларусь прыйшла са свайго мінулага, як гэта мінулае вызначыла і вызначае яго на сення, што дадае наша сучаснасць і, такім чынам, што неабходна ўлічваць кожны раз пры самых смелых як і самых сціплых праекцыях, накіраваных на будучыню, якая сама – як вядома – ужо даўно пачалася.

*Да другой паловы 16 стагоддзя веравызнаннем пераважнай большасці людзей у ВКЛ было праваслаўе, а вернікаў гэтай канфесіі называлі ***русінамі*** альбо ***руссю***, такім чынам, беларусы напачатку - гэта праваслаўныя ВКЛ. (У прыватнасці, Д. Міхалюк). Каталікоў адразу называлі ***літвінамі***, потым на іх распаўсюдзілася назва ***паляк***. З цягам часу назву ***«літвін»*** сталі выкарыстоўваць не толькі ў этнічным ці канфесійным сэнсе, але і больш шырока - у палітычным – як жыхароў ВКЛ, гэта значыць што у такім сэнсе назва пашыралася і на продкаў беларусаў. І толькі потым, значна пазней тэрмін ***літвін*** атрымаў выключна нацыянальна-этнічную афарбоўку. Дарэчы, тэрмін БЕЛАРУС, калі меркаваць па словах Д. Міхалюк, упершыню быў ужыты як этнонім у 1586 г. Саламонам Рысінскім (пратэстант) для акрэслення сваёй нацыянальнасці (Д. Міхалюк, тамсама).

КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ, №15, верасень 2016 ISSN 2291-4757

*Выступленні падчас дыскусіі “Роль нацыяльнай культуры і асветы ў развіцці грамадзянскай супольнасці беларусаў у замежжы”*

## Зінаіда Гімпелевіч: БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА Ў КАНАДЗЕ (БІНіМ, КАНАДА). 1967-2016



Biełarusian Institute of Arts and Sciences, Canada
Institut bélarussien des arts et des sciences, Canada
(BINiM, Canada) 1967-2016



**Зіна Гімпелевіч,** прафесар-эмерытус, ступені бакалаўра і магістра філалогіі атрымала ў Мінску, а доктарскую ступень па славянскай філалогіі ў Атаўскім універсітэце. Працавала ў Атаўскім універсітэце, у Міністэрстве Замежных Спраў Канады і Універсітэце Ватэрлу. Аўтар сямі акадэміічных манаграфій і больш за 70 навуковых артыкулаў. Яе даклады гучалі ў Гарвардзе, Сарбоне, Оксфардзе, Кембрыдже, Ноттінгаме і іншых ўнівэрсытэтах. Пяць разоў студэнты прадстаўлялі яе на ўзнагароду найлепшага прафесара Ватерлу. За працу мае грамату ад генерал губернатара Канады. Таксама мае шыльду (№2) ганаровага прэзідэнта Canadian Relief Fund for Chernobyl Victims in Belaruś ад сяброў фундацыі. Зіна Гімпелевіч займала пасаду прэзідэнта Канадыйскай Асацыяцыі Славістаў. Зараз яўляецца прэзідэнтам Беларускага Інстытуту Навукі і мастацтва ў Канадзе. Яе мара, каб родная краіна квітнела, была добра адукаванай і свабоднай.

17-га верасьня 1967-га году ў Беларускім рэлігійна-грамадскім цэнтры ў Таронта быў заснаваны Беларускі інстытут навукі й мастацтва ў Канадзе. БІНіМ, Canada-гэта асобная навуковая, асьветніцкая і мастацкая арганізацыя нашай новай краіны. Д-р. Раіса Жук-Грышкевіч напісала пра ўтварэньне БІНіМ(у) у Канадзе ў сваёй кнізе *Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча.* Гэтая праца таксама зьяўляецца хронікай беларускага жыцьця ў Канадзе, аздобленай у вялікай меры, сярод іншых здымкаў, мастацкімі фота мг-ра Янкі Сурвілы, сябра канадыйскага БІНІМ(у). Раіса Жук-Грышкевіч таксама дапоўніла гісторыю БІНіМ(у) у Канадзе, калі паведаміла пра яго генэзу падчас паседжаньня БІНіМ(у) у 2002-м годзе. Яна казала што у 1967-м, канадыйскі Інстытут называўся аддзелам БІНіМ(у) ЗША, які існаваў з 1951 году. Але ўжо 17-га лістапада 1968-га году Аддзел перарадзіўся ў незалежны Інстытут. Сувязі з амэрыканскім БІНіМ(ам) ніколі не перарываліся, але ўмовы жыцьця ў нас

былі рознымі, і з прычынаў фармальных і практычных патрэбна было заняць самастойную пазыцыю.

Каб прымаць удзел у акадэмічных форумах нашай новай краіны, трэба было наладжваць сувязі з канадыйскімі і сусьветнымі навуковымі арганізацыямі. Першай зь іх для нас зрабілася Канадыйская асацыяцыя славістаў (КАС), заснаваная ў 1954-ым, якая ў тым жа годзе правяла сваю першую канфэрэнцыю. Наступная канфэрэнцыя КАС(у) адбылася толькі праз 12 гадоў, калі арганізацыя сумесна зь іншымі акадэмічнымі асацыяцыямі краіны зрабілася часткай і сябрам Канадыйскай фэдэрацыі гуманітарных і сацыяльных навук (КФГСН). Ад таго часу і кожны год фэдэрацыя пачала праводзіць Кангрэс, у якім прымаў удзел і КАС. На гэтым, другім Кангрэсе Канадыйскіх Славянаў нашым першапраходцам  у чэрвені 1967 года стаў д-р. Вінцэнт Жук-Грышкевіч, які прачытаў даклад на тэму “Беларусы і канадыйская статыстыка.” Як сведчыць Раіса Жук-Грышкевіч, “…выступаў ён ад грамадзкае арганізацыі Згуртаваньня Беларусаў Канады, а вымагалася, каб лектар рэпрэзэнтаваў навуковую, а не грамадзкую арганізацыю. Выпадак гэты быў беспасрэднай і адной з галоўных прычынаў заснаваньня БІНіМ(у) у Канадзе” (Раіса Жук-Грышкевіч 208). Такім чынам быў заснаваны канадыйскі БІНіМ і беларусы Канады атрымалі свой інстытут каб прымаць удзел у навуковых канадыйскіх і міжнародных акадэмічных імпрэзах: канфэрэнцыях, сымпозыюмах і кангрэсах, і каб несьці зьвесткі аб радзіме не былога царскага ці савецкага паходжаньня, а ў лепшых традыцыях сусьветнай навукі і культуры. Іншымі словамі, усталявалася патрэба, каб беларусаведа заняла законнае месца, сталася “сваёй сярод сваіх.” У гэтым сэнсе супрацоўніцтва з КАС было неабходнай часткай нашага месца ў навуковай славістыцы. Нягледзячы на тое, што паміж першай і другой канфэрэнцыямі КАС прайшло 12 гадоў, пачыная з 1955-га, канадыйскія славісты кожны год выдавалі свой першаклясны акадэмічны часопіс па-ангельску, *Canadian Slavonic Papers.* (З 1989 – 2 разы на год.) З прычыны таго, что большасьць сябраў БІНіМ(у) атрымалі адукацыю не па-ангельску і форма падачы была складаная, да 1987 году ў часопісе быў надрукаваны толькі адзін артыкул сябра БІНіМ(у) д-ра Садоўскага.

Роля БІНіМ(у) выкладзена ў нашым статуце і галоўнай місіі, якая спачатку была сфармуляваная так: “Беларускі інстытут навукі й мастацтва ў Канадзе (БІНіМ) ёсьць арганізацыяй навукі й культуры, якая намагаецца згуртаваць усе навуковыя й культурныя творчыя сілы, што ставяць сабе за мэту навуковае пазнаньне й вывучэньне Беларусі, беларускага народу ды ягонай культуры ў мінулым і сучасным, падтрымліваньне навуковай працы ў галіне беларусаведы, а таксама й творчай працы ў галіне беларускай культуры.” Місіі БІНіМ(аў) ЗША і Канады падобныя сваімі галоўнымі мэтамі, але практычны падыход да іх выкананьня

адрозьніваецца. Дзякуючы таму што амэрыканскі БІНіМ мае больш сяброў, органы друку і некалькі добрых фундацыяў, яго сябры ў сваіх публікацыях вяртаюць багатае жыцьцё беларускай эміграцыі на радзіму. А галоўнае, яны могуць (большай часткай) карыстацца роднай мовай у сваіх навуковых працах. Безумоўна, сябры амэрыканскага БІНіМ(у) шмат робяць таксама на ніве замежнай асьветы пра Беларусь, але толькі тыя, у каго ангельская мова родная ці блізкая да роднай робяць значны ўплыў у замежную навуку. Місія і навуковая праца БІНіМ (у) у Канадзе – пазнаёміць і зацікавіць канадыйцаў, амэрыканцаў і эўрапейцаў навуковым і культурным багацьцем нашай радзімы на знаёмай ім мове (вядома, што гэтая мова большай часткай ангельская); таму матэрыялы пра Інстытут, уключаючы другую рэдакцыю Місіі БІНіМ(у) у Канадзе, ёсьць і робяцца па-ангельску.

**Асноўныя падзеі ў жыцці інстытуту да 1989-га году**

За дакладам д-ра Вінцэнта Жук-Грышкевіча на 2-м Зьезьдзе славістаў у Канадзе (1967) вялікай акадэмічнай падзеіяй стала канфэрэнцыя "Беларусаведныя дні ў Квінс Унівэрсытэце ў Кінгстане" ў 1971 годзе; арганізаваў канфэрэнцыю доктар і прафэсар Янка Садоўскі. Было прачытана 6 дакладаў па-ангельску і зроблена выстава беларускіх майстроў і мастакоў, якую падрыхтавал сябра канадыйскага БІНіМ(у), магістар Алесь Грыцук. Нават большая па фармату за тую канфэрэнцыя – "Беларусаведныя дні ў Атаўскім унівэрсытэце" – прайшла ў 1975 годзе; гэтая канфэрэнцыя была арганізавана спадарствам Сурвілаў, Янкам і Івонкай. На форуме было прачытана 12 дакладаў, аб'яднаных тэмай "Беларуская прысутнасьць у Паўночнай Амэрыцы." Адначасна з канфэрэнцыяй у Атаўскам ун-те адбылася выстава беларускага народнага мастацтва, якую таксама арганізавалі спадарства Сурвілаў у супрацоўніцтве з *Музэем Чалавека*. Вялікую ролю адыграла прысутнасьць "жывога беларускага паветра"— маю на ўвазе "Вечар паэзіі" Натальлі Арсеньневай, якім адкрыла імпрэзу прэзыдэнт канадыйскага БІНіМ(у), спадарыня Івонка Сурвіла. Гэты вечар, дзякуючы галоўнаму лектару і сябру паэткі, прафэсару Антону Адамовічу, а таксама д-ру Янку Запрудніку і прафэсарам-славістам унівэрсытэту Атавы Канстанціну Бідзе і Багдану Плескачу, зрабіўся сымпозыюмам у яе гонар.

У старых нумарах Запісаў (да 2010 году) было магчыма прачытаць аб падзеях ня толькі БІНіМ(у) ЗША, але і Канады, напрыклад, у нумары 19 за 1989 год сярод іншых навінаў чытаем: "У горадзе Таронта Мэдычная асацыяцыя правінцыі Антарыё адзначыла мэдыцынскія прафэсійныя заслугі д-ра Барыса Рагулі, сябры БІНіМ(у) прэстыжнай узнагародай імя Глена Соера" (1983 г., 177); У № 22 (117), за

1996-ы год, надрукавана: “У Гарвардзкім Унівэрсытэце адбылася канфэрэнцыя, прысьвечаная пытаньням культурнага разьвіцьця народаў Усходняе Эўропы. Сп-ня Марыя Паўля Сурвіла чытала даклад “Купальле: зьмены ды ўзмацненьне празь беларускі рытуал.” Такіх і іншых прыкладаў шмат. Між 1979 і 1989-ым Янка і Івонка Сурвілы арганізоўвалі беларускі ўдзел у штогадовым Атаўскім фэстывалі “Бацькаўшчына.” Д-р Раіса Жук-Грышкевіч з’арганізавала некалькі літаратурных вечарын, а д-р Садоўскі працягваў працу і рэгулярна выступаў з дакладамі на КАС. Адна з такіх канфэрэнцыяў, дзе д-ра Садоўскага абразілі калегі-славісты непавагай да беларускай тэмы, каштавала яму ня толькі здароўя, але і жыцьця. Пасьля вяртаньня адтуль сэрца д-ра Садоўскага ня вытрымала. Яму было толькі 52 гады.

**Канадыйскі БІНіМ: 1989-2016**

Але справа д-ра Садоўскага не загінула. З 1989-га году беларуская навуковая прысутнасьць актывізавалася спачатку на канфэрэнцыях славістаў у Канадзе, і з 1990-га – на самай вялікай канфэрэнцыі славістаў у сьвеце, якая праходзіць у ЗША штогод. За пэрыяд 1989-2007 гг. сябры БІНіМу падрыхтавалі больш чым 90 дакладаў на навуковыя тэмы і замацавалі беларусаведу як паважаную частку славістыкі і ў краіне, і ў сьвеце. Спадарыня Івонка Сурвіла брала ўдзел у дзьвюх выставах (адна зь іх пэрсанальная). Сябры БІНіМ(у) прымалі ўдзел і неаднойчы былі запрошаныя на канфэрэнцыі і сымпозыўмы ў Гарвард, Сарбону, Оксфард, Кембрыдж, Ноттінгам і іншыя старыя і новыя ўнівэрсытэты сьвету.

Нашая прысутнасьць таксама адметная на ўсіх сусьветных кангрэсах славістыкі і гуманістыкі. Працэс прыняцьця ўдзелу ў гэтых імпрэзах даволі складаны, але працэдуры адна ад адной адрозьніваюцца не нашмат. Навукоўцы ведаюць, дзе і калі будуць праходзіць канадыйскія і сусьветныя кангрэсы славістаў на пяць гадоў наперад. Але канкрэтна толькі сусьветныя кангрэсы рыхтуюцца ўсе пяць гадоў. Па-першае, падаюцца заявы на ўдзел. Канада мае ня больш за 10 месцаў у сусьветных кангрэсах. За гэты тэрмін кожны патэнцыйны ўдзельнік павінен надрукаваць артыкул (які пераробіцца ў свой час у даклад) у найлепшым акадэмічным часопісе сваёй краіны. Адно гэта займае амаль тры гады, таму што тры тайныя рэцэнзэнты павінны ацаніць артыкул, і калі адзін зь іх не задаволены творам, часопіс патрабуе ад кандыдата яго перапрацаваць, а калі два чалавекі з трох не задаволеныя, часопіс не друкуе артыкулу, і навуковец аўтаматычна элімінуецца зь лектараў кангрэсу. Прасьцей на КАС. Вось, напрыклад, як праходзіла канфэрэнцыя ў Атаве ў 2009. Гэта быў велізарны форум, 9000 дэлегатаў. І мы тады добра прагучалі ня толькі з навуковай сцэны і прадстаўленьнем сваіх кніжак, але і адметным беларускім

канцэртам з удзелам гурта “Яваровы людзі,” а таксама дуэту клясычнай музыкі “Кантабіле” (Улада Шамецька і Міхась Рыкаў); іншыя нашы цудоўныя сьпевакі і музыканты таксама прынялі ўдзел, выступаючы ў найлепшай тэатральнай залі ўнівэрсытэту. Мы правялі славянскую выстаўку мастакоў, у якой, сярод іншых, былі выстаўлены працы нашых беларускіх удзельнікаў (у альфабэтным парадку: Ірыны Варабей, Алены Ляпко, Івонкі Сурвілы, Марыі-Паўліны Сурвілы, Яўгеніі Шаўчэнкі і Пётры Шварцмана), і гэтыя творы прыцягнулі да сябе вялікую ўвагу гледачоў. Але нас ніколі не было шмат. Спачатку нам (першай тройцы 1989-га году: Івонцы і Паўліне Сурвілам і Зіне Гімпелевіч) вельмі дапамаглі сябры БІНіМ(у) ЗША. Пакуль мы не ўсталяваліся ў КАС не як нейкая форма экзотыкі, а як раўнапраўная галіна славістыкі, на працягу 5 гадоў да нас прыяжджалі слаўныя д-ры Ала Рамано, Томас Бэрд, Вітаўт Кіпель, Курт Вулхайзер, Янка Запруднік, сп-ні Зора Кіпель, Надзея Запруднік, Галіна Русак і іншыя. Колькасьць нашых дакладаў была ад 3-х да 12-ці (толькі на КАС). Вялікую падтрымку заўсёды мелі ад Янкі Сурвілы. Пазьней да нас на некаторы час далучылася д-р Ірэна Лысенка.

На Сусьветны кангрэс у Таронта (1995), на якім было прачытана 18 дакладаў па беларусістыцы, прыехалі зь Лёндану Арнольд Макмілін і айцец Надсан; з ЗША былі прафэсар Курт Вулхайзер і д-ры Янка Запруднік і Вітаўт Кіпель. З Беларусі прыехалі д-р Вінцук Вячорка (які быў запрошаны БІНіМ(ам) і прафэсар Станіслаў Шушкевіч. Некалькі замежных навукоўцаў таксама далучыліся да нас і зрабілі добрыя даклады пра Беларусь.

Шмат гадоў студэнты-магістры, якія пісалі тэзу ці курсавую працу на беларускія тэмы – “Беларускія казкі,” “Літаратурная гісторыя Беларусі,” “Літаратурны сшытак Валянціна Крывіча-Аненскага,” “Літаратура Чарнобылю” і інш. – рабілі даклады і прымалі ўдзел у КАС ад імя БІНіМ(у) і ўнівэрсытэту Ватэрлу. Мы таксама абудзілі цікавасьць да Беларусі ў такіх знаных навукоўцаў як д-р Дэвід Марплз і Цімаці Снайдэр.

У сваю чаргу, сябры канадыйскага БІНіМ(у) дапамаглі БІНіМ(у) ЗША умацаваць англамоўную беларусістыку ў ЗША, прымаючы актыўны ўдзел у арганізацыі і адміністратыўнай працы НААБ (Марыя-Паўліна Сурвіла, Зіна Гімпелевіч) і ЦБД (Марыя-Паўліна Сурвіла). Нашу апошнюю сэсію ў КАСе і кангрэсе Марыя-Паўліна, Івонка Сурвіла і Зіна Гімпелевіч правялі ў 2014-м годзе ва ўнівэрсытэце Брок**.** У 2015-м і 2016-м больш працавалі ў ЗША і Эўропе. На сёньняшні дзень зроблена больш чым 140 дакладаў. Апошнім было запрашэньне на сымпозыюм ад ангельскага (Лёнданскага) унівэрсытэту ў чэрвені гэтага году.

У той жа час, кожны сябар БІНіМ(у) – сам па сабе Інстытут. Калі трэба дзесьці паказаць беларускія песьні і танцы, дык сп-ня Віялета Кавалёва ўмомант пакліча “Яваровых людзей” і... заля захоплена! Калі ж артыстам трэба перадыхнуць, ужо на іх месцы цудоўныя Ўлада і Міша грэюць сэрца клясычнай музыкай, а потым зьяўляецца і Валя Шаўчэнка з сардэчным рамансам і Святлана Літвінава трымае зал голасам, з якім не хочуць развітацца. І навокал, куды ні глянь, праца робіцца. Таксама пісьменьніца і мастачка па вышыванках, Ірына Варабей зрабіла шмат для папулярызацыі беларускага нацыянальнага арнамэнту ў Канадзе, заснаваўшы брэнд “Беларускі дух” (Spirit of Belarus). Пётра Мурзёнак выдае часопіс *Сакавік: Культура, Нацыя* (Гісторыя, Мова, Беларусы, Дзяржава). Юрка Шаўчэнка аднавіў сваімі залатымі рукамі Памятны Беларускі Крыж у Мідлэндзе. Усё гэта рабілася, робіцца і будзе рабіцца сумесна з грамадскай працай. Так, Івонка Сурвілла, Паўліна Пашкевіч-Сміт і Зіна Гімпелевіч з’арганізавалі канадыйскую нацыянальную фундацыю дапамогі беларускім дзеткам, ахвярам Чарнобылю (CRFVCB). Тысячы беларускіх дзетак прыязджалі на адпачынак ў Канаду. Таксама на Беларусь дасылалася медычная і дантыстская дапамога і абсталяваньне, пачкі з ежай, вопраткай і вітамінамі. Нават зараз дзеці прыязжаюць, але ўжо не тысячамі, а дзесяткамі. Яны вывучаюць ангельскую мову і атрымліваюць сяброў на жыцьцё. Таксама канадыйцы падтрымліваюць сувязі з беларускімі сем’ямі, якія ім сталі роднымі і пазнаюць нашу радзіму. Гэта ўсё цудоўна, і разам зь іншымі справамі на карысьць ведаў пра Беларусь за мяжой, нам трэба берагчы БІНіМ як дзверы і вокны ў навуковы і мастацкі сьвет.

**Вячаслаў Бортнік: Стварэньне эфектыўнай мультымедыйнай прасторы дзеля культурнага дыялёгу "Беларусь-ЗША"**



**Вячаслаў Бортнік** - праваабаронца, пэдагог і дасьледчык. Працаваў настаўнікам сярэдняй школы ў вёсцы Насовічы, дзіцячым псыхолягам у Гомелі, выкладаў псыхалёгію ў Гомельскім дзяржаўным унівэрсытэце. У беларускім праваабарончым руху з 1995 г. У 2002-2006 гг. узначальваў Беларускую філію Amnesty International, працаваў у шэрагу няўрадавых арганізацыяў, у тым ліку ў РАСТ, Офісе эўрапейскай экспэртызы і камунікацыяў, ЕўраБеларусі і Open Society Foundations. У ЗША з 2013 г. Сакратар Рады БНР, намесьнік старшыні Галоўнай Управы БАЗА, старшыня Вашынгтонскага гуртка БАЗА. Працуе спецыялістам па Беларусі і старшынём Каардынацыйнай групы па Эўразіі ў Amnesty International ЗША. Мае дыплёмы магістра палітычных навук (ЕГУ, Менск) і магістра дзяржаўнага кіраваньня (Амэрыканскі Унівэрсытэт, Вашынгтон, акруга Калюмбія).

Добры дзень, Высокапраасвяшчэньнейшы Ўладыка Сьвятаслаў, шаноўная сп. Сурвілла, паважаныя спадарыні і спадары, удзельнікі 32-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі!

Ад імя Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня і Вашынгтонскага гуртка БАЗА хачу выказаць шчырую падзяку арганізатарам гэтага значнага мерапрыемства за запрашэньне да ўдзелу. Для мяне вялікі гонар быць у гэтай зале, якая сёньня поўніцца выбітнымі асобамі, чыя клапатлівая праца на карысьць беларускай культуры і беларускай нацыянальнай сьвядомасьці надае Беларусі магчымасьць быць пазнавальнай на Паўночна-амэрыканскім кантыненьце.

Сёняшняя, 32-я па ліку, сустрэча – гэта і вынік няспыннай працы старэйшага пакаленьня беларусаў Паўночнай Амэрыкі, спадчына, якую мы атрымалі, каб беларуская культура крочыла не толькі праз час і стагоддзі, але і праз межы – рэгіянальныя і міжкантынентальныя. Нашыя супольныя намаганьні на ніве беларушчыны – гэта справа бягучага часу, якая ў выніку сфармуе будучую самасьвядомасьць беларусаў Паўночнай Амэрыкі.

У сваёй прамове да Вас сёньня я хачу зрабіць кароткую прэзентацыю дзейнасьці Вашынгтонскага гуртка БАЗА і акцэнтаваць Вашую ўвагу на магчымасьцях сучасных тэхналёгіяў і камунікацыйных інструмэнтаў, якія могуць унесьці новую плыню ў разьвіцьцё культурнага дыялёга паміж Паўночнай Амэрыкай і Беларусьсю. З моманту стварэньня Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў 1949 годзе сябры арганізацыі мэтанакіравана працуюць па пяцёх асноўных накірунках:

- захаваньне і папулярызацыя беларускай культуры і гісторыі;
- узмацненьне стасункаў паміж беларускім і амэрыканскім грамадствамі;
- аказаньне падтрымкі беларусам у Амэрыцы;
- абарона традыцыйных беларускіх каштоўнасьцяў, дэмакратычнага разьвіцьця павагі да правоў чалавека ў Беларусі;
- супрацоўніцтва з лакальнымі і міжнароднымі партнэрамі, якія маюць агульныя інтарэсы.

Кожны з названых накірункаў дзейнасьці мае істотнае значэньне для дзвюхбаковых адносінаў, культурнага паразуменьня паміж Беларусьсю і ЗША, амэрыканцамі і беларусамі. Актывісты Вашынгтонскага гуртка БАЗА падтрымліваюць жывы кантакт з палітыкамі, праваабаронцамі, дзеячамі культуры і лідэрамі грамадзянскай супольнасьці ў Беларусі, дапамагаюць з арганізацыяй афіцыйных візытаў, а таксама праводзяць нефармальныя сустрэчы зь імі ў Вашынгтоне. Актывісты гуртка арганізуюць кінапаказы фільмаў пра Беларусь, сустрэчы з беларускімі пісьменьнікамі і мастакамі, праводзяць лекцыі па беларускай гісторыі і культуры, адзначаюць беларускія сьвяты.

Значную дзейнасьць БАЗа ажыцяўляе і праз супрацу з міжнароднымі і мясцовымі арганізацыямі. Так да прыкладу, Алеся Кіпель зьяўляецца афіцыйнай прадстаўніцай БАЗа ва Усходне- і Цэнтральна-Эўрапейскай Кааліцыі (CEEC) і сяброўкай Вялікай Рады Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына". Вячаслаў Бортнік прадстаўляе БАЗа ў Кааліцыі па стварэньню Нацыянальнага музэя амэрыканскіх народаў. Акрамя іншых арганізацыяў, Вашынгтонскі гурток БАЗа актыўна супрацоўнічае з Amnesty International USA, Atlantic Council, Freedom House, German Marshall Fund, Joint Baltic American National Committee і We Remember Foundation.
Гэтымі і шмат іншымі намаганьнямі сябры і актывісты БАЗа імкнуцца зрабіць імя "Беларусь" гучным у розных гарадах і мястэчках Паўночнай Амэрыкі, у афіцыйных кабінетах і падчас дзелавых сустрэчаў.

Але нават няпільным вокам можна заўважыць, што ёсьць сфэра, якую нашай арганізацыі і беларускай дыяспары навогул трэба намагацца больш засвоіць – гэта суцэльнае, актыўнае кіраваньне інфармацыяй пра Беларусь, яе культуру, гучныя палітычныя і сацыяльныя праблемы беларусаў ды іншыя пытаньні ў мультымедыйнай прасторы. Шырокае карыстаньне мультымедыйнымі тэхналёгіямі адыгрывае значную ролю ў стварэньні якаснага кантэксту для вывучэньня культуры, стварэньня плятформаў для абмену думкамі, у тым ліку і лідэраў грамадскай думкі, акадэмічных і творчых гуртоў, моладзі і адукацыйных колаў.

Ключавыя фактары, якія уплываюць на эфектыўнасьць міжкультурнага дыялога гэта:
- стварэньне інтэграванага малюнка Беларусі;
- фармаваньне выбітных характарыстык краіны і культуры;
- прасоўваньне “іміджу культуры”.

Кіраваньне гэтай інфармацыяй пашырае зону ўплыву на ўспрыманьне і разуменьне культурнага кантэксту паміж носьбітамі розных культураў. Болей за тое, гэта мае вырашальнае значэньне для абодзвюх краінаў дзеля ўзаемадзеяньня, разьвіцьця дзвюхбаковых сувязяў і дасягненьня агульнаакрэсленых мэтаў. Уклад у веды беларускага і амэрыканскага грамадства пра ўнікальнасьць гэтых культураў, спрыяньне падвышэньню ўзроўню дасьведчанасьці і разуменьня пытаньняў правоў чалавека, у канчатковым рахунку, спрыяе разьвіцьцю ўзаемападтрымкі і даверу – базавых асноваў любога дыялогу.

Прапанаваныя сучасным часам магчымасьці глябальнай анляйн-сувязі, а таксама заахвочваньне ўдзелу дыяспары, актывістаў у бесперапынным працэсе дыскусій па пытаньнях Беларусі зьмяняюць інфармацыйны ландшафт кожны дзень. Але, чым больш скаардынаванай і пасьлядоўнай будзе праца паміж усімі зацікаўленымі субьектамі, прадстаўнікамі беларускай дыяспары ў стварэньні і выкарыстаньні агульнай мультымедыйнай прасторы, тым бліжэй місыі нашых арганізацыяў будуць да акрэсьленых мэтаў.

З першага крока пачынаецца кожны шлях. Я бачу нашую супрацу ў мультымедыйнай прасторы, паміж іншым, па рэалізацыі такіх праектаў ды ініцыятываў, як:

- Стварэньне англамоўнай You-tube-серыі аповядаў пра Беларусь.
- Стварэньне сучаснага англамоўнага інфармацыйнага парталу пра дзейнасьць беларускай дыяспары, які б быў цікавы амэрыканскім бізнэсоўцам, мастакам, дасьледчыкам ды іншым групам зацікаўленых.
- Рэалізацыя тэматычных анляйн-праектаў пра палітычную сітуацыю ў Беларусі, а таксама праблемы стану правоў чалавека.

Спектар ідэяў у гэтым выпадку не абмежаваны, як і магчымасьці інфармацыйнай прасторы акумуляваць інтарэс людзей, зацікаўленых у пашырэньні ведаў пра культуры Беларусі і Паўночнай Амерыкі, людзей, якія могуць змяніць дынаміку дыялогу паміж ЗША і Беларусьсю!

**Дзякуй за Вашую ўвагу, паважаныя спадарыні і спадары! Жыве Беларусь!**

**Ірына Варабей: “Spirit of Belarus” - Трэці шлях**



**Ірына Варабей** – сябра Саюзу беларускіх пісьменьнікаў, аўтар кнігі “Там, дзе сэрца маё” (2005), пераклала з ангельскай мовы на беларускую раман К. Акулы “Заўтра ёсьць учора” (2008), перакладае на беларускую мову творы індзейска-канадыйскай літаратуры, у прыватнасці, кнігу Паўлін Джонсан “Легенды Ванкувера” (2015) (Pauline Johnson, Legends of Vancouver). Сябра Гільдыі канадыйскіх дызайнераў вышыўкі (Needlework Designers of Canada), Канадыйскай асацыяцыі вышывальніц (Embroiderer’s Association of Canada), заснавальніца і гаспадыня мастацка-дызайнерскай студыі “Spirit of Belarus”. Супрацоўнічае з канадыйскім часопісам “A Needle Pulling Thread” у якасьці няштатнага карэспандэнта-дызайнера. У 2016 г. дзве вышываныя работы адабраны на ўсеканадыйскім конкурсе для трохгадовага шоў-турнэ па Антарыё “Threadworks-2016”. Пераможца двух фота-конкурсаў часопіса “Canadian Geographic”.

*Ад прадзедаў спакон вякоў*

*Мне засталася спадчына...*

*Я. Купала*

*" ...Калі хочаш нечага папрасіць у Бога - маеш розныя шляхі да Яго. Па-першае, можаш схадзіць у царкву ды памаліцца. Па-другое, можаш запаліць грамнічную сьвечку; і пакуль агонь гарыць - маеш час для звароту да Яго... Але ёсьць яшчэ адзін шлях. Наш пракаветны, з даўняе даўніны. Складзі свой ліст да Яго. Не, ня літарамі і не алоўкам. Вазьмі голку з ніткай - і вышый. А замест словаў - узоры. Усё пра ўсё у тых узорах ёсьць...* "

Гэтак некалі прыгаворвала мая бабуля, калі навучала мяне складаць з вышываных крыжыкаў ды ромбікаў узоры, а з узораў - свае лісты да Бога і гэткім магічным чынам наладжваць сваю повязь з духовым сусьветам.

А можа, і не мая бабка... А можа, і ня мне... Можа, маёй бабцы ейная бабка, калі тая яшчэ была маленькай... А можа, іншая бабка ды ў іншае стагодзьдзе... Можа, гэткім чынам мільёны нашых бабак з века ў век перадавалі наступным пакаленьням сваю няхітрую мудрасьць.

*КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ, №15, верасень 2016* *ISSN 2291-4757*

Беларусы - адзіная нацыя ў Эўропе, якая захавала старажытнае сымбалічнае пісьмо, пераклаўшы яго ў вышывальныя арнаменты. Сымбалі, захаваныя ў беларускіх вышыванках, былі агульнымі для эўрапейскага супольніцтва (падобныя ўзоры сустракаюцца і на Ўсходзе і нават на амерыканскім кантыненце), але адно беларусы помняць, што яны азначаюць. З пакаленьня ў пакаленьне, праз веру ў тое, што вышыўка ёсьць магічнай дзеяй, што вышываныя ўзоры - гэта нашыя лісты ў духовы сусьвет, яны перадавалі значэньне старажытных сымбаляў...

Беларусы ўважаюць сябе за вышывальніцкую нацыю. І па праву ганарацца сваімі вышывальнымі здабыткамі перад ўсім сьветам. Вышыўка адыграла такую важкую ролю як у матэрыяльным, гэтак і ў духоўным развіцьці нацыі, што сталася нават брэндам нашае культуры, адметнасьць якога не змаглі зьняважыць нават камуністычныя ўлады, знайшоўшы яму месца на дзяржаўным беларускім сьцягу.
І як гэта ні парадаксальна, але сучасныя беларусы ганарацца сваім брэндам, дзеля якога так шчодра напрацавалі продкі, самі ж для ягонага разьвіцьця нічога ня робячы. Беларуская вышыўка неаглядна адстала ў той частцы ўсясьветнага выяўленчага мастацтва, якім сёньня зьяўляецца сучаснае рукадзельле. Я гэта кажу, бо, знаходзячыся тут, на амерыканскім кантыненьце, які можна лічыць цэнтрам сучаснага вышывальнага мастацтва, бачу, якога ўзроўня дасягнула гэтая справа тут. Гэта ня толькі майстэрства ды разнастайнасьць саміх работ. Я па-добраму зайздрошчу дзейнасьці Амерыканскай ды Канадыйскай асацыяцый вышывальніц: у іх і гільдыі, і семінары, і фестывалі, конкурсы, часопісы, вэб-сайты, майстар-класы, (дабаўлю яшчэ і Каралеўскі цэнтар вышыўкі ў Англіі са сваім Каледжам і прыдворнымі вышывальніцамі), інфармацыйныя банкі стыляў і тэхнік з усяго сьвету - і у рэшце рэшт, якое багатае й цікавае творчае жыцьцё ў тутэйшых вышывальніц! Тым больш, што для занятка вышыўкай ня трэба спецыяльнага таленту - якое ж гэта дэмакратычнае мастацтва, самы просты спосаб рэалізацыі сваіх творчых памкненьняў! - любая аматарка можа худа-ладна вышыць для сябе, калі не хапае здольнасьці на прыдумваньне, любы узор па схемах, распрацаваных для ейных паслуг шчодрымі дызайнерамі.

Я гэтак жа, як і ўсе, некалі пачынала вышываць па чужых схемах. Аж пакуль мяне як беларуску не зачапіў той факт, што сярод незьлічоных схемаў у крамах між віктарыянскіх, індзейскіх, афрыканскіх, кітайскіх, японскіх, нават расейскіх і шмат іншых матываў няма толькі беларускіх. А што ж павышываць беларусцы? Дзе яны -- лёгка-пазнавальныя беларускія матывы, распрацаваныя для вышыўкі майстэрскай рукой сучаснай дызайнеркі? Такія, каб любая Дональдзіха-Макдональдзіха ў краме магла ледзь кінуўшы вокам сказаць: "А, ведаю... гэта – беларускае", і зрэшты набыць яго, спакусіўшыся на цікавую наватарскую тэхніку.

Дый а якія яны -- беларускія матывы наагул?

Тут, напэўна, я мушу зрабіць невялічкі адступ, каб удакладніць сваю думку ангельскім словам імідж. Вы пагодзіцеся сам мной, што для кожнае краіны (культуры, этнаса) склаўся ў сьвеце вобразна-мастацкі імідж. Вось глядзіце. Што на розум прыходзіць чалавеку, калі чуе слова "Японія"? Пэўна ж, галінку сакуры, дзяўчыну з веерам ў даўгаполым капялюшы, дліннай квяцістай сукенцы. Нехта ўзгадае маляванкі баціка, нехта – яшчэ вершы хоку. А пры слове – "Перу"? Ага: шчымлівую мелёдыю, вялізнае пончо, і яшчэ больш шырачэзны капялюш. Пры слове "Кітай" памяць кожнага абпальваюць чырвона-залатыя цмокі. Прыклады можна прыводзіць столькі доўга, колькі ў сьвеце набярэцца краін.

**Дык а што ж Беларусь? Што ва ўсім сьвеце людзі згадваюць пры слове Беларусь? ...Мы, эмігранты, вельмі добра ведаем, што... Так-так, Беларусь згубілася недзе на прасторах неагляднай Эўропы - маленькая невядомая краіна памерам з метраполію Англію з загадкавай культурай, векам са старажытную індускую...**

Сорамна прызнацца, але, пэўна, гэта і добра, што на амерыканскім кантыненьце ўсё яшчэ ня ведаюць, якая такая вышывальніцкая нацыя са сваім ганаровым брэндам існуе ў сьвеце. Бо ў іншым выпадку нам давядзецца прадставіць на пахвальбу свае дасягненьні - павыцягваем з куфраў прабабкіны "крыжыкі" ды "гладзі"... і што ж? ...А нам скажуць: "Та цю-у-у.... крыжыкі мы ўжо бачылі, гэтак яшчэ нашыя бабці вышывалі. Пакажыце, што ў вас новенькага. Мо ў вас новае "баргела" ёсьць? А мо ў "белым-па-белым" якась па-хітраму дзіркі робіце? А мо завітастыя якісь швы ў "чорным-па-белым" маеце? Што ў вас адметнага? Дзе вашыя сучасныя творы?"

Бадай, я тут мушу зноў адступіцца ды зрабіць-такі ніжэйшы паклон нашым прабабкам. Ведалі, ці ня ведалі яны, які знакавы закід у будучыню зрабілі яны, гэтак упарта зьберагаючы вышываньнем старажытнае сымбалічнае пісьмо ды назапасіўшы ім тыя куфры, каб была патомкам нагода вышывальніцкай нацыяй звацца. Здаецца, праўда, маркотна зараз іхным душам у нябёсах глядзець на тое, як мы іхную традыцыю ўзялі раптам ды кінулі. Але гэтае рунічнае пісьмо, захаванае ў па-мастацку гарманічных арнаментах рукамі простых сялянак, -- і можа стацца тым адметным, што мы можам выкарыстаць для стварэньня ўстойлівага, лёгка-пазнавальнага беларускага іміджа.

Вышывальніцкі сьвет даўно ўжо перажыў выдаткі "навуковага й тэхнічнага XX стагодзьдзя", што моцна быў ляпнуў па руках рукадзельніц сваім прагрэсам. Рукадзельніцы Захаду, зьяднаўшыся і разам захаваўшы адданасьць любімаму занятку, узроўнем свайго майстэрства, віртуознасьцю тэхнік, разнастайнасьцю ды прагажосьцю сваіх работ далёка пераасягнулі машынную вытворчасьць, давёўшы права вышываньню (ды й іншым відам рукадзельля) заняць пачэснае месца сярод ужо не рамёстваў, але - высокага мастацтва.

Мае работы - гэта толькі спроба правесьці першую выведку ў гэтым моры сучаснага вышывальнага мастацтва, улучыць у яго беларускую адметнасьць, каб сьвет яе заўважыў, ацаніў, прыняў у сваю супольнасьць. Я ведаю, што за мной прыдуць іншыя, больш таленавітыя, творчыя, маладыя й дзёрзкія - і давядуць сьвету, што вышывальніцкая Беларусь жыве! Ёй ёсьць што паказаць: цудоўныя па прыгажосьці, фантастычныя па складанасьці, мудрагелістыя ды загадкавыя, і ў той жа час асьвечаныя ўсім духоўным жыцьцём нашых продкаў - нашыя беларускія арнаменты. Тут бязьмежнае поле для дасьледаваньняў навукоўцам, а нам, майстрыхам (і майстрам:) - для натхненьня ды рэалізацыі сваіх творчых памкненьняў. Давайце падымем наш брэнд так высока, каб яго сапраўды было відаць адусюль!

Я ўжо пачала.






**Пётра Мурзёнак: Аб характары ўзаемаадносін беларусаў замежжа**



**Пётра П. Мурзёнак,** доктар медыцынскіх навук. Родам з Пастаўшчыны, з сям'і настаўнікаў. Жанаты, мае двух сыноў і двух унукаў. Доктар медыцынскіх навук (1991). Перад выездам у Канаду - загадчык лабараторыі ў Інстытуце фізіялогіі Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі, прафесар і загадчык кафедры імуналогіі ў Міжнародным інстытуце радыёэкалогіі ім. Сахарава (1997-1998). Аўтар 160 навуковых прац. З сям'ёй у Канадзе з 1998 года. Працуе ў Міністэрстве аховы здароўя Канады. Аўтар трох зборнікаў вершаў "Быліна мая, Беларусь" (Аттава, 2000), Крыніца" (Мінск, 2011) і "Пакуль нашыя анёлы лётаюць над акіянам" (Аттава, 2012). У 2014 годзе выйшаў у сьвет аўдыё-альбом вершаў "ДОТЫК". Старшыня Галоўнай управы ЗБК ў 2001-2005 гг., старшыня Аттаўскага аддзелу ЗБК. Заснавальнік і рэдактар паквартальнага вэб-часопіса "КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ". Аўтар кнігі "Шляхі да беларускай нацыі" (Мінск, жнівень 2016).

**Аб чым пойдзе гаворка**

- **Колькі нас і якія мы?**
- **Што мы хочам?**
- **Што мы можам?**

Асноўная думка, якая будзе праводзіцца ў выступленні, заключаецца ў тым, што галоўным матывам яднання беларусаў у замежжы можа быць толькі нацыянальная культура і асьвета. Роля палітычнага кампанента значна меншая.

## Хвалі эміграцыі

| Даты | Краіны эміграцыі | Прыблізная колькасць |
|---|---|---|
| 1794-1795 | Аўстрыя, Прусія | 23.000 |
| 1830-1831 | Францыя, ЗША, Бельгія, Італія | тысячы паўстанцаў |
| 1863-1864 | | 7.000 |
| 1897-1914 | Расія (Сібір)<br>Канада, ЗША, Аргенціна, Бразілія | 700.000 - 800.000<br>500.000 - 600.000 |
| Пасля 1918г. | Літва, Францыя, ЗША, Аргенціна | |
| 20-30-я г.г. | | 250.000 (з Зах. Беларусі)<br>600.000 (з Сав. Беларусі у глыб СССР) |
| II сусв.вайна і пасля | На Усход СССР<br>У Германію<br>Канада, ЗША | 1.5 млн<br>400.000-700.000 (вярнулася 520 тыс.)<br>100.000 |
| 70-90-я г.г. | Ізраіль, ЗША, Германія | 120.000 бел. яўрэяў |
| 1991-2009 г.г. | Расія, Еўропа, ЗША, Канада (??) | 463.000 (афіц.) |

Беларусы, якія сёння жывуць у Канадзе з'яляюцца прадстаўнікамі трох апошніх хваляў эміграцыі.

## БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

**Паводле перапісу насельніцтва ў Беларусі ў 2009 годзе пражывала 9,503,807 чалавек. З іх:**

- **Нацыяўтвараючы этнас: Беларусы – 7,957,000 або 83.7%**
- **Нацыянальныя меншасці: Рускія – 8.3%, Палякі – 3.1%, Украінцы – 1.7%, Габрэі – 0.14%, Армяне – 0.09%, Татары – 0.08%, Цыганы – 0.08%, Азербайджанцы – 0.06%, Літоўцы – 0.05%, Іншыя – 2.8%**

**Па разліках часопіса "КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ" (№6, чэрвень 2014)**

- **У блізкім замежжы – каля 1.1 мільёна**
- **У далёкім замежжы – 0.4 - 0.5 мільёна**
- **Беларусы далёкага і блізкага замежжа разам (1.5-1.6 млн) складаюць прыблізна шостую частку (каля 16%) ад агульнай колькасці беларусаў у свеце.**

## Беларусы ў Канадзе

*(паводле перапісаў насельніцтва ў Канадзе)*




Усяго: 1125 2030 2830 5110 10505 15565

Прагноз на 2016 год – каля 20.000 чалавек

## Беларусы ў ЗША

- **У 2000 годзе ў ЗША пражывала 38.000 беларусаў (U.S. Census 2000).**
- **Па разліках часопіса “КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ” (№6, чэрвень 2014) колькасць беларусаў у ЗША можа складаць каля 150.000 чалавек.**

## Якія мы?

- Апошняя хваля эміграцыі – ў асноўным эканамічная ці сямейная, у параўнанні з пасляваеннай, якая была ў большасці палітычна матываванай
- Апалітычнасць сучаснай эміграцыі адпавядае сітуацыі на радзіме, дзе больш за 90% насельніцтва не жадае мець дачыненні да палітыкі
- Многія беларусы апошняй хвалі эміграцыі маюць савецкі менталітэт, ён не кепскі, і не цудоўны, а такі які ёсць
- Большасць эмігрантаў не разглядаюць магчымасць вяртання на радзіму нават пры ўмове істотных дэмакратычных і эканамічных змен
- Апалітычнасць і савецкая ментальнасць з'яўляюцца тымі супярэчнасцямі, якія існуюць да гэтага часу паміж паваеннай і сучаснай эміграцыяй і прыводзяць да непаразуменняў і канфліктаў.

### Колькасьць мігрантаў з Усходняй Еўропы у некаторых гарадах Канады па перапісу 2011 г.

| | Toronto | Edmonton | Vancouver | Calgary | Winnipeg | Montreal | Ottawa-Gatineau |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Беларусы** | **6,215** | **700** | **1,420** | **980** | **405** | **1,645** | **995** |
| Estonian | 7,880 | 840 | 2,095 | 985 | 285 | 625 | 760 |
| Latvian | 8,690 | 1,005 | 1,980 | 1,020 | 725 | 1,485 | 1,115 |
| Lithuanian | 15,590 | 1,900 | 2,980 | 2,035 | 1,140 | 4,425 | 1,950 |
| Moldovan | 2,100 | 105 | 540 | 450 | 70 | 3,685 | 200 |
| Polish | 214,460 | 68,850 | 63,645 | 50,905 | 58,440 | 53,490 | 31,920 |
| Russian | 118,090 | 26,055 | 51,510 | 34,245 | 25,420 | 40,765 | 13,645 |
| Ukrainian | 130,355 | 148,160 | 84,640 | 81,660 | 115,230 | 26,695 | 23,885 |
| Eastern European origins | 541,280 | 236,300 | 230,615 | 183,545 | 176,295 | 175,545 | 83,670 |

**У Канадзе ёсць 2 актыўныя беларускія суполкі – у Таронта і ў Аттаве.**
**У Манрэалі – перастала існаваць, у Ванкуверы і Эдмантоне – стварыць не атрымалася.**

Апалітычнасць і савецкая ментальнасць, эканамічны\сямейны характар сучаснай эміграцыі (канец XX – пачатак XXI ст.) з'яўляюцца асноўнымі перашкодамі для яднання беларусаў замежжа і стварэння імі беларускіх суполак.

## Часопіс «Культура, Нацыя»

**2013-2016**
- 14 нумароў
- 21 аўтар
- 93 матэрыялы
- 917 старонак

**2015**
- 4373 чытачоў з 83 краін (360 чытачоў за месяц)
- 7104 прагляды

**2016**
- Беларусь - 62%
- Расія – 10.5%
- ЗША - 5.8%
- Канада – 5%
- Бразілія – 2%
- Польшча – 2%
- Украіна – 1.8%




| | 2013 | 2014 | 2015 | 2016 | 2016 да 2013 |
|---|---|---|---|---|---|
| Беларусь | 52% | 51% | 60% | 62% | +10% |
| Канада | 23% | 14% | 9% | 5% | -18% |
| ЗША | 8% | 6% | 5.4% | 5.8% | -2.4% |
| Расія | 1.5% | 8.5% | 8% | 10.5% | +9% |

Ускосна аб апалітычнасьці мігрантаў сьведчыць зьмяншэньне цікавасьці канадыйскіх беларусаў да асьвятленьня нацыянальных праблем у часопісе “Культура, Нацыя”.

## Што мы хочам (ці хацелі б)?

- У замежжы нас аб’ядноўвае любоў да Беларусі !!!
- Быць у пэўным сэнсе прыкладам для радзімы ў сваіх паводзінах, у яднанні і ў падтрымцы беларускай культуры, усведамляючы, што беларусы на радзіме гаспадары сваёй будучыні
- Зычэнне, каб Беларусь была:
- больш беларускай
- больш дэмакратычнай і свабоднай
- больш незалежнай і заможнай

## Што мы можам?

- I. Сродкі культуры – на першым месце
- II. Палітычныя сродкі

Праз палітычныя сродкі – 5-10% максімум: уплыў можа быць значным па свайму дзеянню, аднак, не па аб'ёму - 93% насельніцтва Беларусі не цікавіцца палітыкай, тое ж адлюстроўваецца ў эміграцыі - абсалютна большая частка эмігрантаў пра палітыку слухаць не хоча.

## Што мы можам?

**Калі на пратэстную акцыю выходзяць 4 чалавекі ў Атаве ці 25 чалавек у Таронта (гэта прыблізна 0.4% ад колькасці беларусаў у гэтых гарадах), то гэта раўназначна 7.000 чалавекам, якія сабраліся б ў Мінску**

**4 чалавекі ў Атаве = 7.000 у Мінску**
**25 чалавек у Таронта = 7.000 у Мінску**






Для дэманстацыі сваёй моцы і палітычнай сьпеласьці хацелася б бачыць у дзесяткі разоў больш удзельнікаў у пратэстных акцыях.

*ISSN 2291-4757*

## Як мы можам дапамагчы развіццю нацыі?

- Дэманстрацыяй сваёй еднасці і сваёй прысутнасці ў свеце - праз беларускія асяродкі, сучасныя сродкі інфармацыі, культурную актыўнасць (“Яваровыя людзі”, “Мова Нанова”, праграмы для дзяцей)
- Зберажэннем сваёй культуры і мовы (чэшская мадэль, ірландская мадэль)
- Высокай культураў узаемаадносін паміж сабой, быць прыкладам для радзімы (праяўляць узаемапавагу і падтрымку; крытычна і абгрунтавана вясці спрэчкі, не дапускаючы пры гэтым абраз і спасылак на неправераныя факты, быць талерантнымі да выказванняў апанентаў, своечасова адказваць на пісьмы)
- Непрыймальнасьцю да ксенафобіі і ультранацыянальных лозунгаў, накшталт «беларускія асяродкі для беларусаў». Пабудаваць нацыянальную дзяржаву можна толькі праз адзінства людзей, незалежна ад таго, прыхільнікамі якіх партый, рухаў, рэлігійных і іншых плыняў яны з’яўляюцца
- Празрыстасцю і дэмакратычнасцю прыняцця рашэнняў

## Прапановы

- Адчуваючы сябе часткай беларускай нацыі беларусам Паўночнай Амерыкі пажадана прытрымлівацца ў сваёй дзейнасці прынцыпаў, якія б спрыялі будаўніцтву беларускай краіны больш незалежнай, свабоднай, дэмакратычнай і беларускай.
- Засяродзіць увагу на яднанні беларусаў замежжа на глебе беларускай культуры, мовы і традыцый, якія ляжыць у аснове будаўніцтва кожнай нацыі, не дапушчаючы падзялення беларусаў на больш свядомых і менш свядомых паводле іх палітычных поглядаў.
- Пажадана прытрымлівацца ў сваёй дзейнасці прынцыпаў уключнасці, паводле якіх у беларускіх асяродках ствараюцца роўныя умовы для людзей – прыхільнікаў Беларусі, незалежна ад нацыянальнасці, рэлігійнай і расавай прыналежнасці , і выключаецца магчымасць праяўлення ксенафобіі.
- Запрашаць у беларускія асяродкі усіх людзей, якія жадаюць ведаць і вывучаць культуру і гісторыю Беларусі.
- Звярнуцца да кіраўніцтва незалежных СМІ з просьбай асвятляць жыццё беларусаў Паўночнай Амерыкі ў больш поўнай меры.
- Узмацніць абмен інфармацыяй паміж беларускімі асяродкамі ў Паўночнай Амерыцы.

Частка з выказаных прапаноў уключана ў рэзалюцыю 32-й сустрэчы.

**Вячка Станкевіч: Беларускі музей у Паўночнай Амерыцы** *(Неапаль, Фларыда)*



**Вячка Станкевіч –** нарадзіўся ў Вільні ў 1932 годзе, дзе правёў дзяцінства. Пазьней жыў у Чэхіі, і ў DP лагерах (для перамешчаных асоб) у Нямеччыне. У Амерыцы з 1949 года, служыў у амерыканскім войску. Мае дыплом магістра-інжынера. Жанаты 55 гадоў з Джоан, амерыканкай, якая ўключылася ў беларускую справу. Мае двух сыноў. Пасля 30 гадоў працы ў якасьці інжынера, 10 гадоў працаваў на "Радыё Свабода" з іх 8 год дырэктарам Беларускай службы Радыё. Цэлае жыццё браў удзел у беларускім замежным жыцці. 4 гады быў старшынёй Галоўнай управы БАЗа, цяпер займае пасаду старшыні Рады дырэктароў Беларускай фундацыі Крачэўскага і заступніка Старшыні Рады БНР. На пенсіі замяняў выдаўца часопіса ***Belarusian Review***.

Сп. В. Станкевіч узняў пытаньне аб стварэньні Беларускага музея ў Паўночнай Амерыцы. У якасьці прыклада спасылаўся на музеі, створаныя на эміграцыі чэхамі і украінцамі.

**Ганна Сурмач: Падрыхтоўка выданняў пра гісторыю дзейнасці асобных беларускіх асяродкаў (ці арганізацый) у замежжы** *(Нью-Ёрк)*



**Ганна Сурмач** - скончыла гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсытэту, прафесійны гісторык-архівіст. Дырэктар Цэнтральнага дзяржаўнага архіва-музэя літаратуры і мастацтва Беларусі (1982-1993). З 1990 г. (ад пачатку стварэньня) у грамадзкай арганізацыі Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына". Старшыня Рабочай групы па падрыхтоўцы Першага зьезду беларусаў сьвету у Мінску 8-10 ліпеня 1993 году. Старшыня Рады ЗБС "Бацькаўшчына" з (1993-1999 ). Ад верасьня 1999 году - у эміграцыі, палітычны прытулак у Чэхіі. У 2000-2005 гадах працавала ў Беларускай рэдакцыі «Радыё Свабода» ў Празе, як аўтар і вядучая праграмы "Беларускае замежжа". У ЗША з 2007 г., старшыня Галоўнай управы БАЗА і рэдактар газэты "Беларус". Аўтарка кніг: "Першы зьезд беларусаў сьвету" (1997), "Беларусь бяз межаў" (пра беларускую эміграцыю у сьвеце" (2013), сааўтар кнігі "Гістарычны шлях беларускай нацыі і дзяржаўнасьці" (2001).

Абмяркоўвала неабходнасьць падтрымкі газеты беларусаў замежжа "Беларус", як фінансавай, так і сваім карэспандэнцкім удзелам.

*КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ, №15, верасень 2016 ISSN 2291-4757*



## Рэзалюцыя

## 32-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амерыкі

Мы, прадстаўнікі беларускіх асяродкаў Паўночнай Амерыкі, удзельнікі 32-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амерыкіабмеркаваўшы актуальныя пытаньні стану беларускай нацыянальнай сьведамасьці, грамадзянскай супольнасьці і культуры ў асяродках дыяспары і зыходзячы з пазіцыі аб культурным адзінстве беларускай нацыі сьведчым наступнае:

- Культурнае адзінства нацыі абазначае і прадугледжвае беларускую ідэнтычнасьць паўсюдна, дзе жывуць беларусы (або людзі, якія ідэнтыфікуюць сябе беларусамі);
- Захаваньне беларускай ідэнтычнасьці зьяўляецца сьведамай нацыянальнай задачай кожнага беларуса ў Бацькаўшчыне і ў замежжы, што дае магчымасьць захаваць беларускую культуру і ствараць беларускае сацыяльнае асяродзьдзе для яе разьвіцьця ў эміграцыі;
- Выклікі сучаснага сьвету нясуць пагрозу упадка культуры з прычыны таго, што агрэсіўныя супольнасьці ў асобных краінах выкарыстоўваюць мову і культуру як сродак разбуральнай палітыкі і націску на мову і культуру краінаў і этнічных групаў, падверханых агрэсіі і акупацыйнай палітыцы;
- Нэгатыўныя працэсы сталага даўгагадовага абмежаваньня разьвіцьця беларускай нацыянальнай культуры ў Бацькаўшчыне вядуць да незваротных вынікаў ў разьвіцьці нацыянальнай сьвядомасьці беларусаў як на Радзіме, гэтак і у асяродках дыяспары.

**Уважаем**

**1.** Беларускую мову непарушным падмуркам нацыянальнае культуры і шчытом перад разбуральнай агрэсіяй антыкультурных сілаў,

**2.** Зьберажэньне і пашырэньне ўжываньня беларускай мовы асноўным чыньнікам беларускай салідарнасьці ў сьвеце,

**3.** Беларускую нацыянальную асьвету галоўным чыньнікам умацаваньня нацыянальнай сьвядомасьці беларусаў,

**4.** Пашырэньне беларускай нацыянальнай літаратурнай творчасьці, навуковых дасьледаваньняў і новых формаў заангажаваньня беларусаў ў грамадзкае, культурнае і рэлігійнае жыцьцё паўночнаамерыкансай беларускай дыяспары павінны быць шырока падтрыманы.

**Падтрымліваем наступныя захады і прапануем асяродкам беларускага замежжа у Паўночнай Амерыцы**

1. Засяродзіць увагу на яднаньні беларусаў у замежжжы на глебе беларускай культуры, мовы і традыцый, якія ляжаць у аснове будаўніцтва нацыі, не дапушчаючы падзяленьня беларусаў з розных падставаў і прычынаў;
2. Надалей прытрымліваца ў сваёй дзейнасьці прынцыпаў уключнасьці, празрыстасьці і дэмакратычнасьці; трымаць высокі ўзровень ўзаемаадносін паміж сабой;
3. Спрыяць пашырэньню беларускай прысутнасьці ў сьвеце праз беларускія асяродкі як у існуючых, так і новых формах, у тым ліку праз сучасныя сродкі масавай інфармацыі і камунікацыі;
4. Кантактаваць з кіраўніцтвам незалежных сродкаў масавай інфармацыі з просьбай асьвятляць жыцьцё беларусаў Паўночнай Амерыкі ў больш поўнай меры;
5. Узмацніць абмен інфармацыяй паміж беларускімі асяродкамі ў Паўночнай Амерыцы.

Сьведчачы сваю салідарнасьць і падтрымку прадстаўнікам грамадзянскай супольнасьці, а таксама працаўнікам на ніве беларускай культуры, асьветы у Беларусі, заклікаем суродзічаў набліжаць разам сьветлую будучыню нашай вольнай Айчыны Беларусі.

*Атава, Канада*

*4 верасьня 2016 году*

*Інтэрв’ю*

**Сяргей Кандраценка, прэсавы сакратар “Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» узяў інтэрв'ю у Пётры Мурзёнка з нагоды выхаду яго кнігі «Шляхі да беларускай нацыі» (жнівень 2016)**




Шляхі да беларускай нацыі / Пётра П. Мурзёнак. — Мінск : Кнігазбор, 2016. — 344 с. ISBN 978-985-7144-53-2. У кнізе разглядаюцца праблемы развіцця беларускай нацыі, датычныя да тэарэтычных асноў будаўніцтва беларускай дзяржавы, стратэгіі развіцця беларускай нацыі, ментальнасці беларусаў, узаемаадносін нацыі і свабоды, царквы і нацыі, абгрунтоўваецца існаванне ўсходнеславянскай беларуска-ўкраінскай цывілізацыі і інш. Кніга складаецца з тэматычных артыкулаў, апублікаваных аўтарам за апошнія тры гады ў часопісе «Культура, Нацыя» (2013–2016, № 1–14; www.sakavik.net). Для чытачоў, зацікаўленых у будаўніцтве беларускай нацыі ў сучасных умовах.

**– Ёсць тэорыі, якія сцвярджаюць, што час будавання нацый прайшоў: што можна было збудаваць, ужо збудавана. Ці згодныя Вы з гэтым? Як на Вашу думку, што ў свеце моцнай глабалізацыі чакае Беларусь і нашу мову?**

Я з’яўляюся прыхільнікам ідэі аб тым, што будаўніцтва нацый у свеце яшчэ працягваецца. І прыклады таму ёсць (краіны былога СССР, Югаславіі). Усё залежыць ад волі супольнасці людзей якія саспелі каб гэта рабіць. Беларусы ў гэтым сэнсе яшчэ адносяцца менавіта да такой супольнасці. Але гэта не залежыць ад волі аднаго ці некалькіх энтузіастаў. На мой погляд існуе шэраг аб’ектыўных фактараў, каб беларуская нацыя па-сапраўднаму паўстала як нацыя, роўная сярод роўных у свеце. Сярод іх вылучу асноўныя: тысячагадовая гісторыя і культура беларускага этнаса, незалежнасць і суверэнітэт Рэспублікі Беларусь, высокая этнічная аднароднасць насельніцтва (83.7% лічаць сябе беларусамі), наяўнасць актыўнай нацыянальнай эліты, спрыяльныя знешнія фактары. Усе яны разам даюць надзею на тое, што будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы, а не цывільнай рускамоўнай дзяржавы якая выбудоўваецца цяперашнім кіраўніцтвам, адбудзецца. Можна згадаць, што толькі за апошняе стагоддзе наша нацыя перажыла шэраг спрыяльных і неспрыяльных перыядаў у сваім развіцці, як дзяржава. Але з кожным крокам краіна Беларусь набіраецца сілаў і, як паказвае мой аналіз, наступны перыяд для будаўніцтва нацыі павінен быць спрыяльным, і спадзяёмся, вырашальным.

Я не думаю, што глабалізацыя ў бліжэйшыя 50-100 год нейкім негатыўным чынам будзе ўплываць на развіццё і стан нацый. Мяркую, што гэта пытанне яшчэ недастакова вывучана і роля глабалізацыі ў адносінах да існавання нацый хутчэй ці няправільна трактуецца, ці перабольшваецца. Сапраўды, можна казаць, што ў век высокадакладных тэхналогій, усталявання глабальнай інфармацыйнай прасторы, глабальнага пранікнення капітала, распаўсюджання прынцыпаў і ідэй дэмакратыі і правоў чалавека, палітычная і эканамічная атмасфера ў свеце і ў асобных краінах павольна збліжаюцца. Калі паглядзець на Еўрапейскі Саюз, будаўніцтва якога ідзе ўжо больш паўсотні гадоў, то ў ім шмат чаго зроблена – Шэнгенская віза, адзіная грашовая адзінка еўра, пачалася размова аб стварэнні адзіных узброеных сілаў Еўропы, ёсць шмат прыхільнікаў стварэння еўрапейскай нацыі. Аднак з другога боку, ёсць і шматлікая колькасць еўраскептыкаў, якія ў першую чаргу выступаюць за зберажэнне ідэнтычнасці сваіх нацый і іх умацаванне.

Такім чынам, можна казаць, што рухі да “глабалізацыі” і да нацыянальнай дзяржавы для Беларусі адбываюцца адначосова і ў гэтым сэнсе трэба быць моцным “еўраскептыкам” і нацыяналістам, я маю на ўвазе здольнасць ідэнтыфікаваць сябе як асобную нацыю і трымаць правільны курс на нацыянальнае будаўніцтва. Вялікай небяспекай на гэтым шляху з’уляецца рускамоўнасць беларускага насельніцтва і заганны стан беларускай мовы. На жаль Беларусь, у адрозненне, напрыклад, ад Ірландыі, жыве не на востраве. Для Ірландыі геаграфічная ізаляцыя ёсць адным з фактараў зберажэння нацыі, бо калі казаць пра мову, то роднай ірландскай мовай карыстаецца менш 10% насельніцтва. Пашырэнне ж рускай мовы ў Беларусі, якое ідзе паралельна са змяншэннем вясковага насельніцтва, можа быць катастрафічным фактарам паглынання Беларусі “рускім мірам”. Заўважце, мы не кажам, пра англійскую мову, якая ўсё больш і больш распаўсюджваецца ў свеце як агульназямная мова зносін, аднак, гэта заўжды другая мова пасля роднай. Вы не можаце ўявіць каб французы, галандцы ці немцы, нават ведаючы англійскую мову, адмовіліся б ад сваёй. Таму ў гэтых і іншых еўрапейскіх краінах ніколі не паўстае пытання аб ідэнтычнасці. У Беларусі ж сітуацыя роўна наадварот і выклікана яна не глабалізацыяй, а лакальным уплывам суседняй імперыі. Таму ўмацаванне большай незалежнасці Беларусі ад Расіі ў палітычным, эканамічным і культурным плане з’яўляецца істотнай перадумовай будаўніцтва беларускай нацыі, не адмаўляючы цывілізаванага супрацаўніцтва з усходняй краінай-суседкай. Падаецца, што асягнуць большую незалежнасць (суверэнітэт) можна праз умацаванне дэмакратычных і грамадскіх інстытутаў, і праз асьвету\выхаванне беларускасці ў насельніцтва Беларусі. Шанс збудаваць нацыю і зберагчы мову ёсць.

**– Гэтая Вашая чацвёртая кніга – публіцыстычная, тры папярэднія – паэтычныя. Ці варта ў будучым чакаць ад Вас мастацкай прозы?**

Пакуль што на гэта пытанне не магу адказаць станоўча. Мне здаецца, што не маю дастаткова здольнасцяў, каб пісаць мастацкую прозу. Хаця не скажу, што я аб гэтым не думаў. Мне больш падабаецца выкладаць свае думкі ў канцэнтраванай, вершаванай форме (а ці падабаецца гэта чытачу пакажа час). Я зайздрозціў свайму бацьку, настаўніку па адукацыі, які ў дзвюх кнігах “Над Дзісенкай ракой” і “Адвечныя плыні” па-мастацку і дэталёва ў сваіх успамінах, апавяданнях і расказах адлюстраваў жыццё беларускай вёскі. Трэба сказаць, што бацька пачаў пісаць прозу даволі позна, у 73 гады, калі прыехаў у Канаду, вызваліўшыся ад тыповай працы на гаспадарцы ў вёсцы. Так што, калі раўняцца на бацьку, то спадзяюся буду яшчэ мець час падумаць і пра прозу.

**– Пасля эміграцыі Вы ўпершыню пабывалі на Радзіме толькі праз 15 гадоў, у 2013 годзе. У тым жа годзе запусцілі sakavik.net – пачалі рабіць часопіс. Ці няма сувязі паміж гэтымі падзеямі? Што з пабачанага ў Беларусі паўплывала на гэта?**

Вынікам майго візіта стаў артыкул “Беларусь. 2013. Спатканне з Радзімай”, надрукаваны ў верасні, у 3-м нумары часопіса, у якім я падзяліўся з чытачамі ўражаннямі ад пабачанага. Сама паездка ніяк не паўплывала на напрамак дзейнасці часопіса, заснаванага ў снежні 2012 года. Ідэя стварэння часопіса ўзнікла пасля правядзення канферэнцыі беларускіх лідэраў у Вільні ў лістападзе 2012 года. Арганізатарам той сустрэчы была Рада БНР; мне давялося ўдзельнічаць у некалькіх дыскусіях са сп. І. Сурвілла, Старшынёй Рады БНР, якая канчаткова прыняла рашэнне зрабіць яшчэ адно намаганне ў аб’яднанні беларускіх апазіцыйных сіл. Адной з маіх прапаноў на гэту канферэнцыю было абмеркаванне рэалізацыі сумеснага асветніцкага праекта, які, як меркавалася, якраз і быў бы адным з механізмаў\інструментам для такога магчымага аб’яднання. Аднак, на жаль такая ідэя не знайшла ў той час падтрымкі. Гэты момант і быў штуршком для мяне, каб пачаць рэалізацыю падобнага асветніцкага праекта з дапамогай часопіса і новастворанага вэб-сайта (www.sakavik.net). Асветніцкі праект “Разам” размешчаны на адной з старонак вэб-сайта, аднак, на жаль, ён развіваецца не так паспяхова як хацелася б. Сам часопіс першыя 6 нумароў выходзіў пад назвай “Сакавік”, пазней, пачынаючы з 7-га нумара, часопіс стаў называцца “Культура, Нацыя”. Часопіс выдаецца раз на тры месяцы. Выйшла 14 нумароў, у верасні 2016 года выйдзе 15-ты нумар, у які будуць уключаны і матэрыялы 32-й сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі, якая прайшла ў Аттаве 3-5 верасня гэтага года. За мінулыя тры з паловай

гады на старонках часопіса апублікавана звыш 90 матэрыялаў, падрыхтаваных 21 аўтарам. Асноўнай мэтай часопіса з'яўляецца падтрыманне беларускасці і развіццё беларускай нацыі. На сайце публікуюцца матэрыялы з іншых крыніц, калі яны адпавядаюць напрамку часопіса. Рэдакцыя часопіса ганарыцца тым, што 62% чытачоў часопіса гэта людзі з Беларусі.

**– Чаму ў пэўны момант адбылася змена назвы часопіса з ”Сакавіка“ на ”Культура. Нацыя“? Ці паўплывала гэта на тэматыку?**

Назва “Сакавік” была ўзята напачатку як сімвал нашага слаўнага мінулага - 25 сакавіка была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка, і як сімвал надзеі на сапраўднае нараджэнне беларускай нацыі вясною. Аднак, у падтэксце назвы “Сакавік” чытач часта бачыць нейкія палітычныя, рэвалюцыйныя працэсы. Часопіс жа грунтуецца на ідэях развіцця беларускасці\беларускай нацыі праз асвету насельніцтва краіны, галоўным стрыжанем якой з'яўляецца культура. Назваць часопіс “Культура” не выпадала. Такі часопіс, заснаваны сп. Гедройцам, быў і ён адыграў значную ролю ў атрыманні свабоды Польшчай. Безумоўна, беручы слова “культура” ў новую назву часопіса хацелася мець сімвалічную духоўную пераемнасць ад часопіса Гедройца ў большай ступені, чым быць абвінавачаным у плагіяце. Слова “нацыя” ў назве часопіса дадалося таксама не выпадкова. На наш погляд менавіта гэта слова, нягледзячы на яго непрыйманне многімі інтэлектуаламі, павінна абвастрыць цікавасць да праблемы будаўніцтва нацыі ў Беларусі. Змена назвы не паўплывала на тэматыку часопіса, аднак, хацелася б у будучыні мець больш матэрыялаў прысвечаных пытанням менавіта культуры, бо за амаль чатыры гады існавання часопіса большая частка яго прысвечана нацыянальным праблемам, калі казаць аб пераважным іх асвятленні ў адносінах да культуры і калі ўвогуле можна ўмоўна іх так падзяляць.

**– Што прымусіла Вас, асобу ўжо сфармаваную, маючую і навуковую пасаду, і сям'ю, з'ехаць за мяжу?**

Адказ на падобнае пытанне я даваў раней у інтэрв'ю сп. Н. Гардзіенка (“Новы час”, №26-249, 1 ліпеня 2011 года). Коратка магу толькі паўтарыць, што асноўным матывам ад'езду ў 1998 годзе была безрадаснасць і бесперпектыўнасць развіцця сябе і маёй сям'і ў стварыўшыхся умовах, якія можна было характарызаваць на той час, як вяртанне ў мінулае. Аналіз, які быў зроблены, падказваў, што чакаць змен да лепшага, беларускага, дэмакратычнага, можна будзе не раней, чым праз 40-50 год (1-2 пакаленні). Мае прадказанні напалову ўжо спраўдзіліся. Хтосьці можа сказаць, што такі ад'езд выглядае як уцёкі і падобны на здраду свайму народу. Усё ж

апраўдваючы сябе магу сказаць, што гэта права кожнага чалавека вырашаць свой лёс, браць адказнаць за сваю сям'ю. Тым больш мы ехалі ў вялікую невядомасць. З другога боку, можна было б сказаць, што тое, што я раблю для беларускай справы тут, я, верагодна, не змог бы рабіць на радзіме. На нядаўняй 32-й сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі ў сваім дакладзе я казаў, што сучасная эміграцыя ў Канадзе (канец XX – пачатак XXI ст.) гэта ў асноўным эміграцыя эканамічная, сямейная, з чым магчыма не ўсе могуць пагадзіцца. Я кажу ў асноўным, бо людзі гэтай хвалі, як і абсалютная большасць насельніцтва ў Беларусі на сёняшні дзень, апалітычныя. Пра сябе ж магу сказаць, што палітычны кампанент пры ад'ездзе прысутнічаў, але вырашальным было спалучэнне розных прычын. Вядучымі былі словы "Ніколі не позна пачаць спачатку".

**– Як адбылося Вашае знаёмства з беларускай грамадой Канады?**

Першае наша знаёмства з беларускай грамадой у Аттаве адбылося толькі праз год нашага жыцця і першапачатковага ўладкавання ў гэтым горадзе. Шчыра кажучы, такое позняе знаёмства было абумоўлена не толькі бытавымі праблемамі эмігрантаў. На самой справе, расчараванне станам беларускага грамадства, якое меў пры ад'ездзе, не выклікала ніякага жадання нават пошуку магчымасці такой сустрэчы. Тым не менш, мы з Наталіяй, маёй жонкай, трапілі на беларускую зборку летам 1999 года, якую ладзіў у сваім доме сп. Міхайлаў, тагачасны лідар групы беларусаў. Там жа мы ўпершыню пазнаёміліся са сп. Івонкай Сурвілла, якая была ўжо другі год як абрана старшынёй Рады БНР. Паступова знаёміліся з іншымі беларусамі. Можна казаць, што ў Аттаве ўтварылася цеснае кола беларусаў, якія сябруюць і падрымліваюць беларускі дух. Тое, што гэта сапраўднае кола сяброў было ярка прадэманстравана падчас арганізацыі і правядзення 32-й сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі, якая прайшла з вялікім посьпехам 3-5 верасня гэтага года.

**– Вы на працягу пяці гадоў былі старшынём Згуртавання беларусаў Канады, Атаўскі аддзел Згуртавання ўзначальваеце і цяпер. Што з сябе ўяўляе беларуская грамада Канады сёння? Ці пашыраецца супольнасць? Ці ўяўляе беларуская ідэя цікавасць для эміграцкай моладзі ў Канадзе?**

Паводле афіцыйнай статыстыкі ў 2011 годзе ў Канадзе налічвалася каля 15.000 беларусаў, з іх у Аттаве, каля 1000 чалавек, і ў Таронта – каля 7000 чалавек. Калі паглядзець на дынаміку міграцыі беларусаў у Канаду за апошнія 30 год, то ў гэтым годзе, у якім праводзіўся чарговы перапіс насельніцтва, можна чакаць лічбу – каля 20.000 беларусаў. Гэта калі казаць пра афіцыйную статыстычную частку.

Што тычыцца актыўных беларускіх суполак, то яны дзейнічаюць на сёння толькі ў Таронта і ў Аттаве. Беларуская суполка ў Аттаве, якая з'яўляецца аддзелам Згуртавання беларусаў Канады, налічвае каля 30-60 чалавек. Калі параўнаць гэта з агульнай колькасцю беларусаў у Аттаве, то гэта выглядае як бы і не шмат, аднак, гэта цалкам укладываецца ў статыстычныя рамкі, бо вядома, што грамадскім жыццём звычайна цікавіцца і ўдзельнічае ў ім невялікая частка людзей, 5-10%. Асноўная частка суполкі склалася каля 12-15 гадоў таму назад. Да нас далучаюцца новыя людзі, у асноўным, нацыянальна свядомыя. Як правіла, у Аттаве гэта сямейныя людзі, але такой моладзі студэнцкага ўзроста, якую можна назіраць, напрыклад, у Нью-Ёрку ў Аттаве не шмат.

*Інтэрв'ю апублікавана на сайце «Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» і ў інфармацыйным бюлетэні Згуртавання.*

*Важнейшыя даты ў жыцьці беларусаў,  ліпень – снежань 2016*

**Ліпень**

**6 – Янка Лучына**, беларускі паэт (165 гадоў з дня нараджэння)
**7 – Ян Чачот**, беларускі і польскі паэт, драматург, фалькларыст, этнограф (220 гадоў з дня нараджэння)
**15 – Цётка** (сапр. Пашкевіч Алаіза Сцяпанаўна), грамадска-культурная дзяячка, пісьменніца, асветніца, педагог, выдавец, удзельніца рэвалюцыйнага руху (140 гадоў з дня нараджэння)

**Жнівень**

**28 – Генадзь Бураўкін**, паэт, перакладчык, дзяржаўны дзеяч БССР (80 гадоў з дня нараджэння)

**Верасень**

**5 – Віталь Вольскі**, празаік, драматург, літаратуразнавец, перакладчык (115 гадоў з дня нараджэння)
**16 – Сяргей Законнікаў**, паэт (70 гадоў з дня нараджэння)

**Лістапад**

**18 – Анатоль Вярцінскі**, паэт, журналіст, крытык, драматург, перакладчык (85 гадоў з дня нараджэння)
**23 – "Наша Ніва"**, штотыднёвая грамадска-палітычная, навукова-асветная і літаратурна-мастацкая газета на беларускай мове (110 гадоў з пачатку выдання)

**Снежань**

**9 – Максім Багдановіч**, паэт, класік беларускай літаратуры, перакладчык, літаратуразнавец, празаік, крытык і гісторык літаратуры (125 гадоў з дня нараджэння)
**15 – Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь**, дзяржаўная ўстанова (60 гадоў з часу стварэння)

*Наступны нумар часопіса «КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ» выйдзе ў сьнежні 2016 года*